Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 4 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

**Частка 1**

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2008

УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи-922
В11

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра пачатковай адукацыі Установы адукацыі «Мінскі дзяржаўны абласны інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў» (канд. пед. навук, дац. кафедры, прарэктар па навуковай рабоце *А. С. Грабчыкава*);

доктар філалагічных навук, прафесар, дырэктар Дзяржаўнай навуковай установы «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі *А. А. Лукашанец*.

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

● — дадатковае заданне;

♦ — развіццё мовы;

 — падказка слоўніка.

**Валынец, Т. М.**

В11 Беларуская мова : падруч. для 4-га кл. агульнаадукац. устаноў з рус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 2 / Т. М. Валынец [і інш.]. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2008. — 112 с. : іл.

ISBN 978-985-465-353-2 (ч. 2).

**УДК 811.161.3(075.2=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-465-353-2 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-465-352-5**

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў III КЛАСЕ

## ТЭКСТ. СКАЗ




**Тэкст — гэта выказванне на якую-небудзь тэму.** Сказы ў тэксце звязаны па сэнсе. Яны раскрываюць **тэму і асноўную думку** тэксту. У тэксце можна вылучыць **сэнсавыя часткі,** даць кожнай з гэтых частак загаловак — тады атрымаецца **план** тэксту.

**1.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. На якую тэму гэты тэкст? Якая яго асноўная думка?

Сяброўства не церпіць несумленных, баязлівых людзей. Табе не падабаецца, калі сябар, які паабяцаў штосьці зрабіць, не зрабіў гэтага. Таму імкніся сам быць сумленным, умей стрымаць сваё слова.

Не падабаецца табе і тое, што ў выпадку небяспекі сябар кінуў цябе аднаго. Таму будзь сам смелы, каб апраўдаць званне сябра.

Толькі той мае права на сяброўства, хто імкнецца заўсёды рабіць добрае для таварыша.

*Я. Майр*

● Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі. Складзіце і запішыце яго план.

**2.** Прачытайце тэксты. Успомніце, чым адрозніваюцца тэкст-апісанне і тэкст-апавяданне.

I. Некалі я любіў глядзець з Вялікай гары на сваю вёску. **Каля капліцы расла высокая разгалістая таполя.** Яе верхавіна пачынала паказвацца амаль што з палавіны гары. Далей з вуліцы вызіралі яшчэ таполі. Над адной з іх, пасярод вёскі, часта кружыўся бусел.

II. На першы ўрок Пятрусь спазніўся. Ішоў ён у школу, а Паўлік у гэты час катаў па вуліцы жалезнае кольца. Пятрусь таксама пабег за ім. Цікавая забава, усё роўна як на веласіпедзе едзеш. За звонам кольца не пачуў школьнага званка. Калі ж ён прыйшоў нарэшце на школьны двор, тут не было ўжо нікога.

*Паводле А. Кулакоўскага*

- Вусна перакладзіце выдзелены сказ на рускую мову.



*Капліца* — маленькі будынак для малення, набажэнства (рус. *часовня*).



Вылучаюць **апавядальныя, пытальныя** і **пабуджальныя** сказы. Успомніце:

1. З дапамогай якіх сказаў людзі паведамляюць пра свае думкі і пачуцці, апісваюць прадметы, расказваюць пра падзеі? 2. Якімі сказамі выражаюцца просьбы, загады, заклікі да дзеяння? 3. Якія сказы выкарыстоўваюць людзі, калі хочуць пра што-небудзь даведацца?

**3.** Прачытайце сказы. Якія яны — апавядальныя, пытальныя ці пабуджальныя?

1. Калі ласка, перадай прывітанне бацькам // 2. Сёння мы з мамай пойдзем у кнігарню // 3. Якая твая любімая пара года // 4. Няхай здзейсняцца ўсе вашы мары //

● Спішыце, пастаўце ў канцы сказаў патрэбныя знакі прыпынку.

**4.** Прачытайце жартоўныя пытанні, адкажыце на іх.

1. Што халоднае, як лёд, і салодкае, як мёд? 2. Якая ў рыбы кроў? 3. Ішлі дзве дачкі, дзве маці і бабуля з унучкай. Колькі чалавек ішло? 4. Ці можа страус назваць сябе птушкай?

● З дапамогай якіх спецыяльных слоў утвораны гэтыя пытальныя сказы?

**5.** Прачытайце апавядальныя сказы. Да кожнага з іх пастаўце па 3—4 пытанні.

Міколка перадаў кніжку Антосю. Антось падзякаваў сябру за дапамогу.

● Запішыце апавядальныя і пытальныя сказы.

Узор. *Міколка хутка вывучыў верш. Ці хутка Міколка вывучыў верш? Што вывучыў Міколка? Хто хутка вывучыў верш? Як Міколка вывучыў верш?*

**6.** Прачытайце. Назавіце пабуджальныя сказы.

Як толькі я сябе помню, бацькі мае прывучалі малых шанаваць усё жывое, што вакол нас.

— Не тапчы травіцы, хадзі сцежачкай. Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам...

— Асцярожна рві яблыкі — не паламай галінкі. На паламаным суку не будзе яблыкаў...

— Напрасткі праз жыта не хадзі. Ты патопчаш хлеб...

*У. Дубоўка*

● Назавіце ў пабуджальных сказах дзеясловы, якія выражаюць заклік.



*Шанава́ць* — рус. *уважать, ценить.*
*Напрасткі́* — рус. *напрямик.*



**7.** Са слоў складзіце сказы і запішыце іх. Вызначце, што выражае кожны сказ.

1. Ці, у цябе, стрыечныя, брат, сястра, або, ёсць?
2. Людзям, часцей, усміхайся.
3. Узнімай, сябрам, настрой, сваім, і, родным.
4. Можа рабіць, чалавек, рукамі, цуды, сваімі, сапраўдныя.



*Стрые́чны* — рус. *двоюродный.*
*Сапра́ўдны* — рус. *настоящий.*




Сказы могуць вымаўляцца спакойна, звычайным тонам. Клічныя сказы вымаўляюцца з пачуццём, усхвалявана, вельмі выразна, з павышэннем тону. Гэта заклікі, прывітанні, віншаванні, сказы, што выражаюць моцнае пачуццё.

**8.** Прачытайце пабуджальныя сказы так, як патрабуе іх змест. Якія з гэтых сказаў клічныя?

1. Прыходзь да мяне сёння пасля ўрокаў //
2. Ой, бяжы сюды хутчэй //
3. Няхай ваша жыццё будзе шчаслівае і доўгае //
4. Няхай цяпер Іра паспрабуе рашыць крыжаванку //

● Запішыце сказы, ставячы ў канцы патрэбны знак прыпынку.

Самыя важныя словы ў сказе — **дзейнік** і **выказнік**. Гэта **галоўныя** члены сказа.

**9.** Прачытайце. У кожным сказе знайдзіце дзейнік і выказнік. Вусна пастаўце пытанні ад дзейніка і ад выказніка да астатніх слоў у сказе.

Дзе..і на б..розе прыла..ілі шпако..ню. В..сной прыля..елі шпакі. Хутка ў шпакоў вывеліся пушыстыя шпач..няты.

За шпакоўняй пільна сачыў кот.

Аднойчы кот палез на дрэва. Птушкі дружна наляцелі на злодзея. Спалохаўся кот і ўцёк.

● Спішыце першыя тры сказы, устаўце прапушчаныя літары.

● Падкрэсліце дзейнік адной рыскай, выказнік — дзвюма.



*Пі́льна* — уважліва (рус. *пристально, зорко*).

**10.** Складзіце сказы па схемах.

Які? __________ ========== дзе? на чым?

__________ калі? ========== што?

Як? ========== __________ !

● Запішыце сказы.

**11.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце.

В лесу мы нашли ёжика. Он притаился в зелёных зарослях папоротника. Рядом лежали маленькие ежата. Мы не тронули ежиную семью.

● Падкрэсліце дзейнік і выказнік. Вусна пастаўце пытанні да дадзеных членаў сказа.

● Дакажыце, што гэта тэкст, а не набор асобных сказаў.



Притаился — *прытаіўся;*

в зарослях папоротника — *у зарасніку папараці;*

ежата — *важаняты;*

ежиная — *вожыкава;*

тронули — *кранулі.*




Пара слоў, звязаных па сэнсе, — гэта словазлучэнне: *падкрэсліць* (што?) *словы*, *словы* (якія?) *устаўленыя*. Адно слова ў словазлучэнні галоўнае, другое — залежыць ад яго. Дзейнік і выказнік словазлучэннем не з'яўляюцца, бо дзейнік і выказнік — гэта **сказ**.

**12.** Прачытайце. Выпішыце спачатку дзейнік і выказнік, а пасля — словазлучэнні па ўзоры.

Узор. *Іна ішла. Ішла* (дзе? па чым?) *па лесе. Ішла* (з кім?) *з Ігнатам.*

Іна ішла па лесе з Ігнатам. Яны збіралі ягады. У зялёнай траве Іна знайшла сунічкі. А Ігнат знайшоў вялікі баравік.



**13.** Прачытайце. Якія пачуцці выражаюць клічныя сказы: хваляванне, сум, захапленне?

Вечарамі дзьмуў вецер. Насцечка слухала шум клёна каля акна. Клён быццам расказваў ёй нешта цікавае, важнае і патрэбнае. Колькі ўсяго на свеце многа! І як добра жыць сярод усяго гэтага! Увосень слаўна чакаць першага снегу, а зімой — першай травы. І як радасна ўбачыць першы зялёны лісток на дрэве!

*Паводле К. Чорнага*

● Спішыце першыя тры сказы. Падкрэсліце ў іх дзейнік і выказнік.

## СЛОВА




Кожнае слова выражае пэўны сэнс. Інакш кажучы, мае **лексічнае значэнне.** Словы могуць быць блізкія па значэнні (сінонімы) і процілеглыя (антонімы).

**14.** У левым слупку прыведзены словы, а ў правым — лексічныя значэнні гэтых слоў. Вызначце, якое лексічнае значэнне адпавядае кожнаму слову?

| | |
|---|---|
| **вырай** | ‘вадзяная лілея’ |
| **гарлачык** | ‘паданне пра старадаўнія часы’ |
| каравай | ‘цёплыя мясціны, дзе зімуюць птушкі’ |
| прыказка | ‘круглы пірог’ |
| **легенда** | ‘павучальны выраз’ |

- Запішыце выдзеленыя словы і іх тлумачэнні.

**15.** Прачытайце. Карыстаючыся словамі для даведкі, адкажыце, якія значэнні маюць выдзеленыя словы. Якія з гэтых значэнняў пераносныя?

Капаў **зямлю** — абляцеў вакол **Зямлі, вострае** кап’ё — **востры** боль, **цвёрды** кардон — **цвёрды** намер, яшчэ **зялёны** яблык — **зялёная** стужка.

**Словы для даведкі:** *планета, глеба; моцны, напружаны, наточаны, які добра рэжа, коле; непахісны, устойлівы, моцны, які з цяжкасцю паддаецца сцісканню, згінанню; колер травы, лісця, недаспелы.*

- Складзіце 2 сказы са словазлучэннямі любой па́ры.

 *Сту́жка* — рус. *лента.*

**16.** Прачытайце. Які з сінонімаў у дужках найбольш адпавядае зместу кожнага сказа?

ДЭЛЬФІН

*(Маладога, юнага)* дэльфіна лю..і звалі Гогам. Ён быў вельмі в..сёлы, цікаўны і *(геройскі, смелы, бясстрашны)*. Гога *(дужа, вельмі, надзвычайна)* любіў дзя..ей. Дзеля іх ён гатовы быў *(вырабляць, рабіць, паказваць)* розныя *(штучкі, выкрутасы, трукі)*. А яшчэ Гога любіў танц..ваць пад музыку, якая *(раздавалася, даносілася, чулася)* з берага.

*Паводле А. Крыгі*

- Спішыце, раскрыйце дужкі і ўстаўце прапушчаныя літары.

**17.** Прачытайце словы. Карыстаючыся словамі для даведкі, падбярыце да кожнага з іх па два сінонімы.

Асілак, ахайны, гора, вельмі, прыветліва, заўважыць.

**Словы для даведкі:** *сілач, пачціва, акуратны, волат, бяда, надта, чысты, няшчасце, надзвычай, ветліва, угледзець, прыкмеціць.*

- Запішыце сінонімы па ўзоры.

Узор: *удача — поспех, дасягненне; павольна — няспешна, няшпарка.*

**18.** Прачытайце, устаўце замест кропак антонімы да выдзеленых слоў. Растлумачце сэнс прыказак.

1. **Новых** сяброў набывай, а … не забывай. 2. **Менш** гавары — … рабі. 3. **Горкая** часам праца, ды хлеб ад яе … . 4. Птушка **малая,** а карысць ад яе … . 5. Здароўе **лёгка** страціць, ды … набыць.

● Спішыце сказы, устаўляючы патрэбныя словы. Падкрэсліце антонімы.



*Набы́ць* — рус. *приобрести.*
*Ка́рысць* — рус. *польза.*



**19.** Прачытайце. Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары.

1. Ночка пазм..тала з неба ўсе хмаркі, і яно заззяла тысячамі рознакал..ровых агеньчыкаў-зорак. Сла..на блішчалі гэтыя адвечныя н..бесныя вочы. *(Я. Колас)* 2. Па старой замшэлай пуш..ы хо..іць ве..ер невідушчы. *(С. Грахоўскі)* 3. Ціхі веч..р у сузор'ях над с..лом плыве. *(А. Русак)* 4. Засвішча, заскуголіць па..ночны ве..ер. *(Л. Дайнека)*

● Знайдзіце словы ў пераносным значэнні і падкрэсліце іх.



*Заззя́ць* — рус. *засверкать, засиять.*
*Паўно́чны* — рус. *северный.*




Корань — самая важная частка слова. Каб вылучыць корань слова, трэба падабраць некалькі роднасных слоў і знайсці ў іх агульную частку: *стрэл — стралок — страляць — страляніна; вуха — вушка — вушны — навушнікі — завушніцы*. Некаторыя гукі ў корані могуць чаргавацца *(стрэл — стралок, вуха — вушка)*.

**20.** Выпішыце роднасныя словы групамі, абазначце ў іх корань.

Зіма, вадаём, насільшчык, святло, асв**я**тленне, зімаваць, зімні, падводны, насіць, зімо**ў**ка, ва**дз**яны, пераносіць, вада, н**а**сілкі, св**я**ціць, светлы.

- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**21.** Прачытайце. З дапамогай якой часткі слова ўтвораны новыя словы? Назавіце ў корані роднасных слоў гукі, якія чаргуюцца.

Луг — лужок, мост — мосцік, лес — лясок, нага — ножка, ціхі — цішыня, горад — гарадок, трава — траўка, рака — рачны, збіраць — зборка.

- Спішыце словы парамі. Абазначце суфіксы. Падкрэсліце літары, якія чаргуюцца.

Узор: *мост — мосцік.*

**22.** Утварыце ад слоў аднакаранёвыя антонімы з дапамогай прыставак ***пера-, пры-, раз-, вы-.*** Запішыце антонімы парамі, абазначце прыстаўкі.

У з о р: *недаплаціць* — *пераплаціць.*

| | |
|---|---|
| Недаплаціць — ..., | недавыканаць — ..., |
| адлятаць — ..., | адплысці — ..., |
| завязаць — ..., | замарозіць — ..., |
| уехаць — ..., | ускочыць — ... . |

● Выберыце пару аднакаранёвых антонімаў і вусна складзіце з імі па адным сказе.

**23.** Прачытайце сказы, устаўце назвы часцін мовы.

1. На пытанні х т о? ш т о? адказвае ... .
2. Прымету прадмета абазначае ... .
3. У сказе ... бывае выказнікам.

**24.** Прачытайце, устаўце замест пытанняў патрэбныя словы. Якія гэта часціны мовы?

Паспелі маліны. Дзя..чаткі з (я к і м?) Петрыкам адправіліся ў падаро..а. Яны ішлі па с..ежцы праз (ш т о?). Збоку (я к?) шапацела калоссе. Дзе..і ўброд перайшлі (ш т о?).

Вось і лес. Колькі тут (я к і х?) чырвоных ягад! Хутка дзяўчаткі назбіралі (я к і я?) гарлачыкі. А ў Петрыка яшчэ мала. З'еў хлопчык сваю (ш т о?). Тады Петрык (ш т о з р а б і ў?). Ён (ш т о

з р а б і ў?) шышак пад ягады, і ў яго стаў (я к і?) збаночак.

**Словы для даведкі:** *маленькі, жыта, ціха, рачулка, духмяныя, поўныя, маліна, падлажыць, поўны, схітрыць.*

● Спішыце першую частку тэксту, устаўце прапушчаныя літары.



*Гарла́чык, збано́чак* — рус. *кувшинчик.*



**25.** Прачытайце. Спішыце. Вусна пастаўце пытанні да дзейніка і выказніка, падкрэсліце іх.

Сп..вае лета над барамі.
С..сонкі струнамі звіня..ь.
Гамоні..ь поле каласамі.
Ш..поча ў кветках сенажаць.

*П. Броўка*

● Вызначце часціны мовы ў кожным сказе. Абазначце іх, ставячы над словамі літары ***н.*** (назоўнік), ***дз.*** (дзеяслоў).

# ТЭКСТ. АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ ПРА ТЭКСТ




Добры дзень, хлопчыкі і дзяўчынкі! Вельмі рады сустрэцца з вамі яшчэ раз у багатай і слаўнай Краіне Тэкстаў. Ці не забылі вы яе жыхароў?

**26.** Прачытайце наступныя сказы. Адкажыце, якіх слоў у іх не хапае? Спішыце, устаўце ў сказы «згубленыя» словы.

1. Тэкст складаецца са … . 2. Усе сказы ў тэксце звязваюцца заўсёды па … і аб'ядноўваюцца агульнай … і асноўнай … . 3. Правільна афармлены тэкст павінен мець …, … і … . 4. Да тэксту можна падабраць … . 5. … патрэбны, каб раскрыць тэму тэксту ці яго асноўную думку.

**Словы для даведкі:** *пачатак, сэнс, тэма, канцоўка, загаловак, асноўная частка, сказ, думка.*

● Раскажыце, што вы ведаеце пра тэкст. Чым ён адрозніваецца ад паасобных сказаў?

Расказ свой пачніце так: «Тэкст — гэта выказванне на пэўную тэму. Ён...»

**27.** Прачытайце і вызначце, ці можна гэту групу сказаў назваць тэкстам? Калі не, растлумачце чаму.

**1. Шмат у яго ворагаў. 2. А паратунак адзін — заднія ногі. 3. Незайздроснае зайцава жыццё. 4. І воўк, і ліса, і, вядома ж, паляўнічыя. 5. Дзякуючы ім, доўгім і дужым, заяц уцякае ад бяды з хуткасцю аўтамабіля.**

- Спішыце сказы ў такім парадку, каб у вас атрымаўся тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.
- У якой паслядоўнасці вы размясцілі сказы? Растлумачце чаму.

**28.** Прачытайце. Вызначце, колькі сказаў у гэтым тэксце.

**Вечарам над лесам сабраліся хмары бліснула маланка забухаў цяжкі гром пайшоў моцны дождж у зайчыка намоклі портачкі а сыраежка аж да самых краёчкаў напоўнілася вадой**

***В. Кастручын***

- Спішыце тэкст, правільна аформіце кожны сказ.

**29.** Разгледзьце малюнак. Знайдзіце дзе хто.



**30.** Прачытайце. Вызначце, які гэта тэкст — апавяданне ці апісанне?

Ля берага зелянеў круглы ліст. А побач пакалыхвалася на вадзе белая лілея. На тонкіх і прыгожых пялёстках лілеі ляжала бліскучая расінка. Сонечныя промні кожную секунду ўспыхвалі ў ёй рознакаляровымі агеньчыкамі.

*Я. Пархута*

**_секу́нда_**

- Адкажыце пісьмова на пытанні:
  1) Дзе зелянеў круглы ліст?
  2) Што пакалыхвалася на вадзе побач з круглым лістом?
  3) Якія пялёсткі былі ў лілеі?



**31.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта не тэкст, а набор сказаў. Перастаўце сказы ў такім парадку, каб атрымаўся тэкст.

Аднойчы но**чч**у падняўся ў лесе моцны вецер. Дрэўца перагнулася цераз сцежку, дакранулася з**я**лёнай макаўкай да зямлі ды так і засталося стаяць. Ён ледзь не вырваў з з**я**млі маладую б**я**розку.

Раніц**а**й бег па сце**ж**цы шэры заяц. Спужаўся касы, павадзіў доўгімі вушамі і не пабег пад зялёную арку. Убачыў ён наперадзе бярозку, спыніўся.

*Р. Ігнаценка*

- Запішыце першую частку тэксту.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

## ЧАСТКІ ТЭКСТУ. ПЛАН ТЭКСТУ

**32.** Разгледзьце малюнак. Як вы разумееце яго сэнс?




● Успомніце, на якія часткі могуць дзяліцца тэксты? Чаму?




Тэксты могуць дзяліцца на сэнсавыя часткі.

Кожная такая частка мае сваю маленькую тэму. Ідучы ад адной маленькай тэмы да другой, аўтар паступова прыходзіць да агульнай тэмы і паслядоўна раскрывае змест тэксту.

**33.** Прачытайце тэкст. Колькі ён мае сэнсавых частак? Пра што гаворыцца ў кожнай частцы?

### ВЯСЁЛКІ НАД ЗЯМЛЁЮ

Пяць вясёлак над зямлёю! Палі і лясы, вёскі пад імі ўяўлялі сабой вялізную карціну незвычайнай прыгажосці.

Калі насоўвалася хмара, жаваранкі пахаваліся і маўчалі. А цяпер нібыта хто сыпануў іх у сіняе неба.

Людзі, старыя і малыя, выйшлі з хат і дзівіліся на вясёлкавы цуд.

*З. Бяспалы*

● Аўтар даў тэксту загаловак «Вясёлкі над зямлёю». Ці можна даць іншы загаловак (напрыклад, «Вясёлкавы цуд»)? Які з гэтых загалоўкаў будзе адпавядаць тэме, а які — асноўнай думцы тэксту?

**34.** Прачытайце тэкст. Колькі ў ім сэнсавых частак?

### БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Чорнае і зялёнае. Вечны сонечны цень Белавежскай пушчы, самага старажытнага лесу на зямлі.

Чорнае і сіняе. Цень пушчы, а над ёю блакіт бязмежнага неба Беларусі, яе рэк і азёр.

Чорнае і карычневае: прамільгне ў нетрах алень або цяжка правалюхае зубр.

Чорнае, зялёнае, сіняе, карычневае. Але яшчэ і залатое: сэрцы лепшых людзей, што, насуперак усяму, стагоддзямі берaглі Белавежу. І зберaглі дзеля нашага гонару і славы.

*У. Караткевіч*

● Вызначце тэмы сэнсавых частак. Якая агульная тэма раскрываецца ў іх?

● Чаму аўтар бачыць Белавежскую пушчу чорнай і зялёнай? чорнай і сіняй? чорнай і карычневай? Чаму да гэтых колераў дабаўляе яшчэ і залаты?

● Выпішыце з тэксту абзац, у якім аўтар расказвае пра людзей Беларусі, якія зберагглі Белавежу. Падкрэсліце ў ім прыметнікі.

**35.** Прачытайце тэкст. Чаму аўтар даў яму загаловак «Мішэнь»? Колькі сэнсавых частак можна выдзеліць у гэтым тэксце?

## МІШЭНЬ

Хітрую навуку пал**я**вання кожны спасцігае па-свойму. А ў кацянят школа такая: спачатку мішэнню **ў**ласны хвост служыць. Ён гнуткі, вёрткі, няўлоўны. Як ні стараешся яго ла**п**камі ўхапіць ці зубамі зашчоўкнуць — ён усё адно выскаквае на волю. Так і круціцца вакол хваста кацяня, вучыцца спрыту і паляўнічай кемлівасці. І мішэнь заўсёды пры ім — свая, **у**ласная.

*В. Зуёнак*

● Спішыце, падзяляючы тэкст на сэнсавыя часткі.
● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



**36.** Прачытайце тэкст. Вызначце, колькі ў ім сэнсавых частак. Пра што гаворыцца ў кожнай сэнсавай частцы?

На зіму мы лета ў халадзільніку ці ў шафе хаваем. Як? А вось як. Чэрвеньскім ранкам, яшчэ да сонейка, узнімае нас маці з ложкаў і прыгаварвае: «Уставайце, дзеткі, па ягады пойдзем».

Сон неахвотна адпускае нас, але мы ўстаём. Па роснай звілістай сцяжынцы ідзём да лесу. Свежае, нібы настоенае на туманах і кветках, паветра праганяе сон-дрымоту. Ды і маці падбадзёрвае: «Хутчэй, хутчэй, дзеткі! Летам збярэш, а зімой як знойдзеш».

*М. Янчанка*

● У якой сэнсавай частцы аўтар выказвае асноўную думку тэксту? Знайдзіце і выпішыце гэтую сэнсавую частку.

**37.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі. Падбярыце да іх загалоўкі. Запішыце гэтыя загалоўкі як пункты плана.

## НЁМАН І ЛОША

Дзве рэчкі — Нёман і Лоша — паспрачаліся, хто шпарчэй дабяжыць да мора. Кінулася Лоша туды, дзе ніжэй, дзе лягчэй прайсці, а Нёман пайшоў напрасткі і напралом.

Лёгка беглася неглыбокай рэчцы Лошы, але нізінкі завялі яе проста ў балота.

Цяжкі шлях выбраў сабе Нёман, нялёгка яму прыйшлося, але затое ён прабіўся да марскіх прастораў.

*А. Адамовіч*

● Вызначце асноўную думку тэксту і запішыце яе. Ці згодныя вы з аўтарам?

● Успомніце з урокаў рускай мовы, навошта патрэбны план тэксту? Што адлюстроўваецца ў ім? Як складаецца план?




У плане адлюстроўваюцца змест і будова тэксту.

Дзякуючы плану, мы дакладней уяўляем сабе будову твора і лепш разумеем яго змест.

Каб скласці план, трэба:

- падзяліць тэкст на сэнсавыя часткі;
- вызначыць тэму кожнай сэнсавай часткі;
- запісаць тэмы сэнсавых частак як пункты плана.

**38.** Прачытайце.

КВЕТКІ ПЛАЧУЦЬ

Раніцою бабуля Зося нарэзала на агародзе цэлы жмут півонь. Паставіла іх у гладышы на стол.

Кветкі былі расянымі, і з іх пачалі падаць на чысты абрус кропелькі вады.

— Бабуля, — заўважыў гэта Андрэйка, — глядзі, не трэба было зразаць іх, яны ж плачуць.

*А. Бадак*

● Прачытайце план тэксту. Як ён складзены?

1. Як півоні апынуліся ў гладышы на стале?
2. Чаму півоні «заплакалі»?
3. Што сказаў бабулі Андрэйка?

**Звярніце ўвагу!**

План можна скласці:

- з тэм кожнай сэнсавай часткі;
- з пытанняў да кожнай сэнсавай часткі тэксту.

**39.** Разгледзьце малюнкі. Пастаўце да іх пытанні і запішыце іх.









♦ Выкарыстайце пастаўленыя вамі пытанні як пункты плана і вусна складзіце апавяданне па малюнках.

**40.** Прачытайце. Складзіце план тэксту. Перакажыце тэкст па плане.

### ЯК НА ЗЯМЛЮ НОЧ ПРЫЙШЛА

Даўным-даўно на нашай зямлі было вельмі многа цяпла і святла. Усюды цвілі кветкі і з радаснай усмешкай цягнуліся да Сонца, якое не заходзіла ніколі. Людзі жылі шчасліва і багата.

Але злая старая ведзьма Цемра пазайздросціла Сонцу. Доўга думала яна, як адабраць ад Сонца хоць крышынку яго магутнасці. І прыдумала...

Узялася Цемра за працу. Села прасці чорнае прадзіва, каб выткаць з яго палатно.

Аднойчы, калі стомленае Сонца заснула, ведзьма накінула на неба аграмадную чорную посцілку.

Так на зямлі ўпершыню наступіла Ноч.

*Ю. Ярмыш*



*Пра́дзіва* — рус. *пряжа*.
*По́сцілка* — рус. *покрывало*.



**41.** Самастойна складзіце і запішыце працяг тэксту «Як на зямлю Ноч прыйшла».

Раскажыце, ці доўгай была радасць Цемры?
Што здарылася, калі Сонца абудзілася?
Ці здолела яно прагнаць Ноч з зямлі?
Чым закончылася барацьба Цемры з Сонцам?

# СКАЗ

## БУДОВА СКАЗА




Сказ будуецца са слоў, як дом з цаглінак. **Дзейнік і выказнік** — самыя важныя «цаглінкі», без іх немагчыма скласці сказ. Гэта **галоўныя члены сказа.** Паясняюць і дапаўняюць іх **даданыя члены сказа.**

**42.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. У кожным сказе падкрэсліце дзейнік і выказнік.

Звычайна пінгвіны жыву..ь у ва..е. На беразе яны толькі выво..яць дзяцей. Па з..млі гэтыя незвычайныя птушкі хо..яць на дзвюх нагах. Іх ласты-крылы вельмі нагадваюць рукі. А на галаве смешна тырчаць доўгія пёры.

*Паводле Я. Маўра*

- Які гэта тэкст — апісанне ці апавяданне?

**43.** Прачытайце сказы. Назавіце ў кожным з іх дзейнік, выказнік і даданыя члены сказа.

Выраслі ў лесе блакітныя красачкі. Зацвіла пахучая чаромха ў гаі. Замільгалі ў паветры легка-

крылыя матылькі. Вылецела працавітая пчолка з вулея.

● Выпішыце з кожнага сказа спачатку дзейнік з даданым членам сказа, які яго дапаўняе, потым — выказнік з даданым членам сказа, які яго дапаўняе. У дужках стаўце пытанні да даданых членаў сказа.

У з о р: *пчолка* (я к а я?) *працавітая, вылецела* (а д к у л ь?) *з вулея.*

**44.** Прачытайце тэкст. Растлумачце напісанне прапушчаных літар.

Атаман — в..лікі калматы сабака. Адно вуха яго тырчыць, а другое вісіць. Жыве ён за хлявом. Дзед напхаў у ж..лезную бочку саломы. Атаман вырыў у саломе н..ру. Вось і гатова жыл..ё. Атаман браха.. р..дка. Затое, калі падаваў голас, дык уся вёска чула.

*Паводле У. Ягоўдзіка*

● Выпішыце з тэксту тры сказы, якія адпавядаюць схемам:

1. Ш т о р о б і ц ь? х т о? д з е?
2. Х т о? ш т о з р а б і ў? у ч ы м? ш т о?
3. Х т о? ш т о р а б і ў? я к?



*Калма́ты* — рус. *лохматый, кудлатый.*
*Браха́ць* — рус. *лаять.*

**45**. Разгледзьце малюнкі. Прачытайце пытанні.



Дзе стаяць дзеці? Што праплывае міма іх? Пра што мараць дзеці?



Хто глядзіць прыгодніцкі фільм? Ці падабаецца яму гэты фільм?

*Прыго́дніцкі* — рус. *приключенческий*.
*Карабе́ль* — рус. *корабль*.

● Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце. Падкрэсліце ў сказах дзейнік і выказнік. Вусна назавіце дадания члены сказа, якія адносяцца: а) да дзейніка, б) да выказніка.

**46.** Прачытайце. Вызначце, гэта тэкст-апавяданне ці тэкст-апісанне.

Дудар спяваў пра свой народ. Ён зваў людзей да лепшага жыцця. Людзі чулі праўду ў яго песнях. Аднойчы багаты пан пасадзіў дудара ў склеп. Дудар заспяваў смутную песню. Вецер данёс яго песню да людзей. Людзі вызвалілі свайго дудара.

*Паводле Я. Коласа*

● Спішыце. У кожным сказе падкрэсліце галоўныя члены сказа.

● У першым і другім сказах пісьмова пастаўце пытанні да дадзеных членаў сказа.

што? чыіх? у чым?

У з о р. *Людзі чулі праўду ў яго песнях.*



*Склеп* — рус. *подвал, подполье.*



**47.** Прачытайце. Знайдзіце сказы, якія лепш за ўсё перадаюць уражанні аўтара ад прыгожай хаты.

Вёсачка была невялікая. **Алесь неўзабаве ўбачыў крайнюю хату.** Яна была падобная на ўсе іншыя хаты, ды не зусім. Над вясёлымі блакітнымі вокнамі было прымацавана драўлянае сонейка з прамянямі-дошчачкамі. **Яно радасна ўсміхалася!** Здавалася, што навокал святлела! Алесь смела павярнуў на дагледжаны надворак. **На парозе стаяла бабуля ў цёплай хустцы на галаве.**

*Паводле У. Ягоўдзіка*

● Выпішыце выдзеленыя сказы. Падкрэсліце ў іх дзейнік і выказнік.

● Пастаўце пытанні да іншых членаў сказа.

● Якія дададзеныя члены гэтых сказаў паясняюць іншыя дададзеныя члены?

як? які?

У з о р. *Я смела павярнуў на дагледжаны*

куды? на што?

*надворак.*

## АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА




У сказе можа быць некалькі дзейнікаў пры адным выказніку або некалькі выказнікаў пры адным дзейніку і некалькі даданых членаў сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне. Такія члены сказа называюцца **аднароднымі.**

**48.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце подпісы да іх.



Саша, Каця, Юля і Антось гуляюць у мяч.



Дзяўчынка корміць курэй, гусей, качак.



Дзяўчынка мые і выцірае талеркі, кубкі, міскі.

● Запішыце сказы. У якім сказе чатыры дзейнікі, у якім — два выказнікі, а ў якім — тры даданыя члены сказа? Падкрэсліце гэтыя члены сказа.

**49.** Прачытайце гумарэску. Як хлопчык «падрыхтаваў» свайго бацьку да непрыемнага паведамлення?

МАЛЕНЬКІ СХОД

Андрэйка падышоў да бацькі.

— Ты толькі не хвалюйся, тата. **Заўтра пасля ўрокаў у нас будзе маленькі сход вучняў, бацькоў і настаўнікаў.**

— Што значыць «маленькі сход»?

**— Збіраемся я, ты і настаўніца.**

● У выдзеленых сказах знайдзіце члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне і звязаны па сэнсе з адным і тым жа словам.

Члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне і звязаны па сэнсе з адным і тым жа словам, называюцца **аднароднымі.**

Аднароднымі могуць быць:

дзейнікі: ***Віхуры*** *і* ***мяцелі*** *ў лютым наляцелі;*

выказнікі: *Вясной усё навокал* ***ажывае, зеляннее, прыгажэе;***

даданыя члены сказа: *Павольна плылі ў празрыстым паветры* ***доўгія*** *і* ***роўныя*** *павуцінкі.*

**50.** Прачытайце тэкст. Якімі членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы? Дакажыце, што гэтыя члены сказа аднародныя.

### ДОЖДЖЫК І ГРОМ

На цёплай хмарцы спаў Дожджык.

**Падкраўся** да яго Гром ды як **гыркнуў,** як **раўнуў! Спалохаўся** Дожджык, **прачнуўся, заплакаў.** Паліліся слёзы на зямлю.

А людзі кажуць: дождж ідзе.

Умываюцца **поле, луг, лес.** Умываюцца **пшаніца, травы.**

Выплакаўся Дожджык. Перастаў дождж.

*В. Сухамлінскі*

**51.** Прачытайце. Растлумачце правапіс прапушчаных літар.

1. Цэлае лета пч..лка працуе, м..док прыпасае. А шэршань гр..ецца на сонцы ды пагульвае ў гаі. 2. Мы з табой жывём на вельмі пр..гожай і казачнай з..млі. 3. Кожная пара года дорыць нам свае ка..кі і цуды. 4. Пажо..клыя лісточкі ціхенька кружыліся ў паветры і апускаліся на зямлю. 5. Людзі, жывёлы, расліны хвар..юць ад бруднага паветра. Паветра забруджваецца пылам, дымам, газамі.

- Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.
- Назавіце аднародныя члены сказа.



**52.** Прачытайце. У кожным сказе назавіце аднародныя члены сказа. Скажыце, на якія пытанні яны адказваюць.

ДОЖДЖ У ЛЕСЕ

Асіны, б..розы гнуцца пад п..рывамі ветру. Сосны і елкі грозна шумя..ь. А ве..ер злуецца, завывае, стогне. Хмары пац..мнелі, насунуліся, паліліся на з..млю цёплым дажджом. Ён напаі.. палі, лугі, л..сы.

Нарэшце выглянула ласкавае, цёплае веснавое сонейка.

*П. Паўлаў*

● Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

● У якіх сказах: а) два дзейнікі і адзін выказнік; б) тры выказнікі і адзін дзейнік; в) тры дададныя члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне, адносяцца да аднаго і таго ж слова?

**53.** Прачытайце. Устаўце замест пытанняў аднародныя члены сказа, выкарыстоўваючы словы для даведкі.

1. Полацкі князь Рагвалод меў (я к у ю?) ... і ... дружыну. 2. Кірыла Тураўскі нарадзіўся і жыў у палескім горадзе Тураве. Ён прысвяціў сваё жыццё служэнню (к а м у?) ... і ... . 3. У гісторыі кожнай краіны бываюць (я к і я?) ..., ... часы. 4. Скарына вучыўся (д з е?) ..., ... і ... . 5. Якуб Колас пісаў для дзяцей (ш т о?) ..., ..., ... . 6. Пра

прыгажосць роднага краю пішуць многія беларускія (хто?) ... і ... .

**Словы для даведкі:** *вялікую, моцную; Богу, людзям; цяжкія, небяспечныя; Беларусі, Польшчы, Італіі; вершы, казкі, апавяданні; паэты, пісьменнікі.*

● Запішыце сказы, якія ў вас атрымаліся. Падкрэсліце аднародныя члены.

**54.** Прачытайце сказы. Разгледзьце схемы. Адкажыце, якому сказу адпавядае кожная схема.

1. У невялікай вёсцы стаяла хатка. 2. У хатцы жыла старэнькая і нямоглая бабуля. 3. Бабуля мела вялікага прыгожага і разумнага ката. 4. Яна карміла яго смятанай ды каўбасой. 5. Кот любіў бабулю, суцяшаў яе.

1. Хто? што рабіла? каго? чым? ды чым?

2. Хто? што рабіла? якога? і якога? каго?

3. Хто? што рабіў? каго? што рабіў? каго?

4. Дзе? што рабіла? якая? і якая? хто?

5. У якой? дзе? што рабіла? што?

**55.** Прачытайце. Дакажыце, што дадзеныя члены ў наступных сказах не з'яўляюцца аднароднымі.

Вова прыйшоў **дадому позна.** Ён хадзіў у **госці да аднакласніка.** Адтуль ён прынёс **сястрычцы цукеркі. Дзяўчынка** падзякавала **брату за гасцінец.**

**56.** Прачытайце. Дапоўніце сказы з аднароднымі членамі словамі па пытаннях.

Жыла на свеце мышка. Вылезла яна (а д к у л ь?) і гуляе (д з е?). А за ёю пагнаўся кот. Мышка спалохалася (к а г о?), уцякла (к у д ы?). Сядзіць мышка (д з е?), калоціцца (з я к о й п р ы ч ы н ы? а д ч а г о?). А кот стаіўся (д з е?), чакае (к а г о?).

● Запішыце тэкст, які ў вас атрымаўся. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.



**57.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

1. Я засцілаю дол ігліцай, спрадвеку слаўлюся жывіцай. 2. Да яліны, да сасны доктар прыляцеў лясны. 3. Маленькі шарык пад лаўкай шарыць, збірае крошкі, баіцца кошкі.

● Спішыце. Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Пастаўце ад іх пытанні да іншых членаў сказа па ўзоры.

ч ы м?

У з о р. *Махнула птушка пяром, пакрыла ўвесь*

ш т о? ч ы м?

*свет крылом.* (Ноч)



*Жыві́ца* — празрыстая смала на ствалах хвойных дрэў.

**58.** Прачытайце верш. Растлумачце правапіс прапушчаных літар.

Скачуць кроплі даж..авыя.
Скачуць кроплі, як ж..выя,
па сц..жыне, па дарозе,
па страсе, па агаро..е,
па ліс..ях, па траве,
па маёй галаве.

*І. Муравейка*

● Знайдзіце ў вершы аднародныя члены сказа, дакажыце, што яны з’яўляюцца аднароднымі.

**59.** Прачытайце тэкст. Назавіце аднародныя члены ў сказах. Які знак прыпынку пастаўлены паміж аднароднымі членамі сказа?

Цвіце, красуе наднёманскі луг. У зялёнай траве растуць люцік, смолка, рамонак, званочак. За лугам серабрыцца сонечнымі зайчыкамі рака. Над лугам, над ракой разносяцца галасы людзей, строкат касілак.

Зімой жывёле будзе ўдосталь свежага, духмянага сена.

*П. Паўлаў*

● Якія члены сказа — галоўныя ці даданыя — з’яўляюцца аднароднымі ў кожным сказе?



*Рамо́нак* — рус. *ромашка.*
*Звано́чак* — рус. *колокольчик.*

На пісьме паміж аднароднымі членамі сказа ставіцца коска: *Оля градкі **даглядала**, іх **палола**, **палівала**.*

**60.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак.

Цяжка дыхае Вялікі акіян. Хвалі равуць кідаюцца на скалы распыляюцца ў пырскі з незадаволеным гулам адыходзяць назад. Стагоддзі тысячагоддзі кідаецца акіян на скалы. Яны цвёрда стаяць на варце не пускаюць хвалі ў сярэдзіну. Але з цягам часу нават трывалыя скалы размываюцца рушацца ў ваду.

*Паводле Я. Маўра*

● Спішыце, пастаўце знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.

**61.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце словы і словазлучэнні.




Прыехаў на гастролі, знакаміты дрэсіроўшчык ільвоў і тыграў, у наш горад.



Прыйшлі ў цырк, школьнікі, дарослыя, зусім маленькія дзеці.



Выконвалі ўсе каманды, скакалі праз запаленае кола, ільвы і тыгры.



Акрабаты, жанглёры, канатаходцы, наезнікі на конях, выступалі, пасля.



У перапынках паміж выступленнямі, клоун, жартаваў, паказваў фокусы.



Пасля спектакля куплялі, у фае, паралонавыя насы, вушы, каўпакі, рознага колеру.

● Карыстаючыся словамі і словазлучэннямі, да кожнага малюнка складзіце сказ, каб у вас атрымалася апавяданне.

● Са складзеных сказаў выберыце тры: а) з аднароднымі дзейнікамі; б) з аднароднымі выказнікамі; в) з аднароднымі даданымі членамі сказа. Запішыце іх.



**62.** Спішыце тэкст, пастаўце паміж аднароднымі членамі сказа патрэбныя знакі прыпынку.

ЛЕТАМ

Як хараша ў вёсцы летам! Каля ганка цвітуць настуркі ляўконіі. У садзе ўжо наліваюцца сокам чырванеюць вішні. **На градах спеюць агуркі памідоры гарох боб.** Але больш за ўсё Ясь любіць лес луг поле рачулку.

- Складзіце схему выдзеленага сказа.

## СЛОВЫ, ЯКІЯ ЗЛУЧАЮЦЬ АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА




У аднародных членаў ёсць словы-памочнікі, якія іх злучаюць. Гэта словы ***і***, ***а***, ***але***.

**63.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце сказы, у якіх «працуюць» словы ***і, а, але.*** Што гэтыя словы расказваюць пра сябе?

Жылі-былі ў лесе воўк, лісічка  зайчык.



— Я працую ў тых сказах, дзе ёсць пералічэнне. У маўленні мяне ўжываюць часцей за любое іншае слова.

Хмарка крылаў не мае, 

лятае.

Месяц свеціць, 

не грэе.

— Самі па сабе мы нічога не абазначаем, затое дапамагаем зразумець сэнс сказа. Мы выражаем у сказе супрацьпастаўленне.

● Для чаго ў сказах выкарыстоўваюць словы-памочнікі ***і, а, але***? Прывядзіце прыклады.

**64.** Прачытайце загадкі. Адгадайце іх.

1. Што мы не бачым, але чуем?
2. Яна вечарам нараджаецца, ноч жыве, а раніцай памірае.
3. Напіўся, наеўся, на агонь усеўся, кашу зварыў і нас накарміў.
4. Ён не стукне, не грукне, а ў акно ўвойдзе.
5. Хто капялюш носіць, але галавы не мае?

**Словы для даведкі:** *грыб, гаршчок, дзень, рот, рэха, раса.*

● Назавіце ў кожным сказе аднародныя члены і словы, якія іх звязваюць. Што выражаюць гэтыя словы — пералічэнне ці супрацьпастаўленне?

**65.** Разгледзьце малюнкі.







● Якія словы «сябруюць» з коскай? Якое слова «адмаўляецца» ад яе дапамогі?

> Аднародныя члены сказа могуць быць звязаны паміж сабой з дапамогай слоў ***і, а, але***.
>
> Перад словам ***і***, калі яно ўжываецца ў сказе адзін раз, коска не ставіцца: *Вясна прыносіць нам ласкавае сонейка, ручайкі* ***і*** *пралескі*.
>
> Перад словамі ***а, але*** заўсёды ставіцца коска: *Ласкавы ветрык прабег па зямлі,* ***а*** *потым падзьмуў смялей. Пайшоў дробны,* ***але*** *спорны дождж*.

**66.** Прачытайце ўрыўкі з вершаў. Назавіце аднародныя члены сказа і словы-памочнікі паміж імі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Град грукоча і грыміць,
па палях, гарах шуміць.
*У. Мазго*

На мядзведзя мы напалі,
але самі ж уцякалі.

*А. Бадак*

Расці, дрэўца, усім на дзіва
не па днях, а па гадзінах.

*І. Муравейка*

**67.** Прачытайце сказы. Пра якія казкі яны нагадваюць? Якія знакі прыпынку прапушчаны ў сказах?

1. Прыйшла лісіца ў зайкаву хатку выгнала зайку і ў яго хатцы засталася. 2. Аднаго разу знайшла курачка каля плота пшанічны каласок узрадавалася і засакатала на ўвесь двор. 3. Шчыра служыў сабака свайму гаспадару але праз некаторы час састарэў. 4. Пойдзем мы да Івана і выпрасім тую Свінку — Залатую Шчацінку.

- Спішыце сказы, ставячы, дзе трэба, коскі.



**68.** Прачытайце, замест кропак устаўце патрэбнае слова — ***і, а, але***. Адгадайце загадкі.

1. Два браты ў ваду глядзяць ... разам не сыходзяцца.
2. Ляцяць птушкі без крыл ... садзяцца без ног.
3. Стаіць дзед над вадой ...ківае барадой.
4. Па саломе ходзіць ... не шастае.
5. Цякло, цякло ... схавалася пад шкло.
6. Што нас корміць ... есці не просіць?

**Словы для даведкі:** *зямля, сонечны прамень, сняжынкі, берагі ракі, рэчка пад ільдом, чарот.*

● У якіх сказах перад словам-памочнікам трэба паставіць коску?

● Спішыце першыя тры загадкі разам з адгадкамі. Падкрэсліце словы-памочнікі.



*Ша́стаць* — шалясцець, шамацець.

**69.** Прачытайце. Размяркуйце сказы ў такім парадку, каб атрымаўся тэкст. Дайце яму загаловак. Запішыце тэкст.

1. Як захаваць садовыя дрэўцы ад шкодніка?
2. Гаспадары зімой абвязваюць садовыя дрэўцы яловымі лапкамі.
3. Гэты майстар драць кару мае два вялікія і вострыя зубы.
4. Так яны ахоўваюць яблыні, ігрушы, слівы, вішні ад зайца.
5. Імі ён імгненна сцярэбіць морквіну і качан капусты.
6. А зімою скача ён да вёскі і ласуецца салодкай карою маладзенькіх яблынь.

*Паводле У. Ягоўдзіка*

● Назавіце сказы: а) з аднароднымі выказнікамі; б) з аднароднымі даданымі членамі, якія адказваюць на пытанне я к і я?

**70.** Прачытайце верш. Якія літары трэба ўставіць замест кропак? Якія члены сказа з'яўляюцца аднароднымі?

### ВЯЧЭРНІЯ ХМАРКІ

Праплывай..е ж, хмаркі,
вы над родным краем,
над с..лянскім полем,
над з..лёным гаем.

*Я. Колас*

- Вывучыце верш на памяць. Запішыце яго па памяці.

**71.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

1. Што свеці..ь грэе вес..ліць ззяе і ўсю з..млю ажыўляе?
2. Цёплым летам і зімой мае́ іголачкі са мной.
3. Яна сваё дзі..я не забыла і чужых дзя..ей малачком напаіла.

**Словы для даведкі:** *карова, сонца, елка.*

- Назавіце ў сказах аднародныя члены. Дзе трэба паставіць коскі?
- Спішыце сказы-загадкі разам з адгадкамі. Устаўце прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

**72.** Прачытайце. Гэта тэкст-апавяданне ці тэкст-апісанне?

Вавёркі кормяцца арэхамі ягадамі гр**ы**бамі. Летам і восе**нн**ю вавёркі рыхтуюць сабе запасы на зіму.

Вы ідзяце па лесе і раптам бачыце апеньку на дрэве. Як яна трапіла сюды? Гэта робяць вавёркі. Грыбы сохнуць на паветры а зімой спатрэб**я**цца гаспадыні.

Хавае вавёрка свае запасы **ў** дупле апалых лісцях і ў зямлі. Яна выкапае ямку паложыць туды свой харч і закапае яго.

*П. Паўлаў*

● Выпішыце сказы з аднароднымі членамі. Пастаўце, дзе трэба, коскі.

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**73.** Прачытайце. Са слоў складзіце сказы і запішыце іх. Падкрэсліце словы-памочнікі ***і, а, але***.

1. Мы, паветра, яго, адчуваем, не бачым, але.
2. У нядзелю, звычайна, ходзяць, у госці, гуляюць, людзі.
3. Сняжынка, на каўняры, паляжала, трошкі, раптам, знікла, і.
4. Драпежныя, палююць, жывёлы, на звяроў, іншых, на чалавека, нападаюць, часам, а.

**74.** Прачытайце верш. Растлумачце правапіс прапушчаных літар. Які знак прыпынку трэба паставіць у вершы?

УСХОД СОНЦА

На ўсхо..е неба грае
пералі..ным блескам

сыпле зол..та над гаем
і над пер..лескам.

*Я. Колас*

● Назавіце аднародныя члены сказа. Растлумачце, чаму паміж імі ставіцца або не ставіцца коска.

● Спішыце верш, устаўце патрэбныя літары і знак прыпынку.

● Назавіце ў вершы словы з пераносным значэннем.

**75.** Разгледзьце малюнкі. Дапоўніце сказы.



Максім намаляваў ..., ..., ... і ... .



Іра ... і ... прадукты.



У садзе паспелі ..., ..., ... .



На стале ляжаць ..., ..., ..., ... .

● Запішыце сказы. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.



*Алóвак* — рус. *карандаш.*

**76.** Прачытайце. У якіх выпадках паміж аднароднымі членамі сказа патрэбна коска?

Над возерам л..ціць чайка і выгл..дае ў ва..е дабычу. Веерам распус..іла яна кароткі хвост і вострымі крыламі, як сярпамі, расс..кае паветра. Над блакітным прасторам пануе перадв..чэрняе сонца адлюстроўваецца ў ва..е лашчыць хвалі прам..нямі.

У небе з'явіўся каршун. Трывога! Чайка апусцілася на ваду і пагойдваецца на ёй хаваецца сярод хваляў. Каршун знік за цёмнай сцяною лесу. Чайка супакоілася і зноў узнялася ў паветра.

*Паводле В. Вольскага*

- Спішыце першую частку тэксту. Устаўце прапушчаныя літары і коскі.
- Падкрэсліце ў кожным сказе галоўныя члены.



*Панавáць* — рус. *господствовать.*
*Пагóйдвацца* — рус. *покачиваться.*

**77.** Са слоў і словазлучэнняў складзіце сказы. Ужывайце злучнік ***і*** для сувязі аднародных членаў сказа.

1. Ходзяць, сядзяць, балерыны, прыгожа.
2. Чалавек, кожны, свайго, народа, павінен ведаць, песні, танцы, паданні, казкі, прыказкі.

3. Ёсць, помнікі, старажытныя будынкі, цэрквы, у Мінску, касцёлы.

4. Народны, майстар, рэчы, з кудзелі, з дрэва, умее вырабляць, цікавыя, з саломы.

***балеры́на***

● Запішыце сказы, пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.



*Кудзе́ля* — валакно льну, прыгатаванае для прадзення.

**78.** Прачытайце. Пра якога дзеда гаворыцца ў вершы? Якіх знакаў прыпынку не хапае ў сказах? Растлумачце чаму.

ДЗЕД-ГОСЦЬ

Ходзіць дзед белабароды
полем лесам пералескам
засцілае рэчкі лёдам
брыльянцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы
туліць дрэвы лёгкім пухам
крые руні травы лозы
белай воўнаю — кажухам.

*Я. Колас*

● Спішыце першую частку верша. Пастаўце, дзе трэба, коскі.



*Рунь* — усходы раслін, якія засяваюцца восенню і зімуюць пад снегам.

*Во́ўна* — авечая шэрсць.

**79.** Прачытайце тэкст. Падбярыце да яго загаловак. У якіх выпадках паміж аднароднымі членамі сказа патрэбна коска, у якіх — не?

Аднойчы да мяне зайшоў сн..гавік. Ён вельмі стамі..ся замерз і пакры..ся шэранню. Я прапанавала гос..ю кубач..к чаю. Ён з радас..ю згадзі..ся і выпі.. гарачы чай. Раптам мой дзі..ны госць уздыхнуў і растаў.

Засталіся толькі в..лікая лужа сухая моркаўка і сумныя чорныя вугольч..кі. Вось як.

*В. Бажэйка*

● Спішыце тэкст, устаўце прапушчаныя літары. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.



*Ку́бачак* — рус. *чашечка*.
*Шэ́рань* — рус. *иней*.



**80.** З кожнага сказа выпішыце дзейнік у спалучэнні з выказнікам. Устаўце прапушчаныя літары. У якіх сказах дзейнік спалучаецца з двума аднароднымі выказнікамі?

### ПРАЛЕСКА І КРОПЛЯ ВАДЫ

На высокай яліне спала сн..жынка. Вось прыгр..ла сонейка. Сн..жынка растала, упала на дол кропляй вады. Растаў снег да самай зямлі. Пралеска пад снегам пр..чнулася, убачыла акенца. Падн..лася пралеска са свайго мяккага ложка і зірнула ў акенца.

Навокал л..жыць снег. На полі гуляе веснавы вец..р. А каля ялінкі пазірае на сонейка блакітная квет..чка.

*Паводле В. Сухамлінскага*

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з аднароднымі выказнікамі.

**81.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце апорныя словы і словазлучэнні.



коцік, ратаваўся, ад сабакі, ішоў у школу, убачыў, кінуў берэтам



павіс на галінцы, апынуўся ў смешным становішчы, збянтэжана глядзеў, дзядуля з кіёчкам



зразумеў, пашкадаваў, дастаў кіем



пабег з усіх ног, спазніўся, але

● Вусна складзіце па малюнках невялікае апавяданне на тэму «Чаму Стасік спазніўся ў школу». Выкарыстайце ў апавяданні сказы са злучнікамі ***і, але.*** Напрыклад: *Стасік вырашыў пазабаўляцца перад урокамі* ***і*** *кінуў у коціка берэтам. З усіх ног пабег Стасік у школу,* ***але*** *ўсё роўна спазніўся.*

● Два складзеныя сказы запішыце.

***берэ́т***

**82.** Прачытайце. Якія знакі прыпынку трэба паставіць паміж аднароднымі членамі сказа і ў канцы сказаў?

1. Па лесе па ярах глыбокіх булькалі звонка крыніцы 2. Чым нас новы год спаткае і парадуе нас чым 3. Сыплюцца кроплі часта і дробна 4. Колькі зор на небе Як блішчаць яны 5. Лёгкі ветрык сад калыша гойдае галінкі 6. Лес пахне смалою грыбамі

*Я. Колас*

● Спішыце, пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.



*Яр* — роў, лагчына (рус. *овраг*).



**83.** Прачытайце. Растлумачце, якія літары і знакі прыпынку трэба ўставіць.



УДОД

Берасцянкі дразды зел..нушкі сустракаюцца ў нас паўсюль. Удода можна ўбачыць не часта. Гэта цудо..ная птушка мае дзі..ны пр..гожы і рэдкі гала..ны ўбор. Ён нагадвае веер.

Я с..джу нерухома за кустом ядлоўцу і ўважліва сачу за паво..інамі ўдодаў. Сонца ўжо заходзі..ь але добра асв..тляе кожнае п..ро гэтых птушак.

*Паводле В. Вольскага*

● Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары і знакі прыпынку.

● Выкарыстоўваючы малюнак і тэкст, апішыце ўдода.

♦ **84.** Прачытайце тэкст і план да яго. Якія часткі тэксту адпавядаюць кожнаму пункту плана? Прыдумайце загаловак да тэксту.

Аднойчы прывёз бацька Міколку кавалак **каменнага вугалю. Цікавы** быў камень. На адным баку **малюнак,** нібы выразаў хто цэлую галінку. Дробнае лісцейка на ёй разышлося веерам.

Расказвае бацька цікавыя гісторыі пра гэты камень. Быў ён тысячы год назад не каменем, а высокім прыгожым дрэвам з гаманлівым лісцем зялёным. І вось найшла навальніца і паваліла дрэвы. Усю зямлю заслалі векавыя гіганты. Іх засыпаў **пясок.** Зацягнула **балотная твань.**

**Ляжаць** дрэвы пад зямлёй, **не гніюць.** Год ляжаць, **дзесяткі, сотні і тысячы гадоў** ляжаць. Ляжаць і камянеюць. І лісцейка **захоўвае свой малюнак** у акамянелым дрэве. Вось якая гісторыя гэтага малюнка...

*Паводле М. Лынькова*

***дзеся́так***

План

1. Міколка разглядае незвычайны падарунак.
2. Чым калісьці быў каменны вугаль.
3. Як атрымаўся малюнак на камені.

● Спішыце выдзеленыя словы і словазлучэнні. Карыстайцеся імі як апорнымі. Напішыце пераказ тэксту па плане.



*Твань* — гразкае, багністае месца (у балоце).

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. На якія пытанні адказваюць дзейнік і выказнік?
2. На якія пытанні могуць адказваць дадзеныя члены сказа?
3. Якія члены сказа называюцца аднароднымі? Прывядзіце прыклады сказаў з аднароднымі членамі.
4. Назавіце словы-памочнікі, якімі могуць быць звязаны аднародныя члены сказа.
5. Раскажыце пра знакі прыпынку пры аднародных членах сказа.

# ЧАСЦІНЫ МОВЫ

## НАЗОЎНІК. АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ




Дарагія сябры! Я — Граматыка. І мяне цікавіць, якія бываюць часціны мовы.

Давайце прадоўжым знаёмства з ужо вядомай вам часцінай мовы — назоўнікам.

Назоўнікі абазначаюць прадметы і адказваюць на пытанні х т о? або ш т о?

Назоўнікі, якія абазначаюць людзей і жывёл, адказваюць на пытанне х т о?

Назоўнікі, якія абазначаюць рэчы, расліны, адзенне і іншыя прадметы, адказваюць на пытанне ш т о?

**85.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі. Пастаўце да іх пытанне х т о? або ш т о?

### ЯК ІРЫНКА НАВУЧЫЛАСЯ ВЫМАЎЛЯЦЬ *Р*

Аднойчы бацька з маленькай Ірынкай прыйшлі ў звярынец. Вось тыгр, воўк, лісіца, заяц, малпа.

У клетках многа птушак: і паўліны, і арлы, і папугаі. У адной з клетак сядзеў папугай, якога звалі Аро. Ён выразна і гучна выкрыкваў сваё імя: «Ар-ро!»

Ірынка разам з папугаем пачала паўтараць: «Ар-ро!» Малая дзяўчынка раней не вымаўляла «р». Спачатку ў яе атрымлівалася не вельмі прыгожае «Ав-во». Але раптам «р» загучала звонка і чыста. І Ірынка з таго часу ўсе словы з гукам «р» вымаўляе правільна.

*Паводле М. Ягорава*

● Выпішыце назоўнікі па групах, як паказана ва ўзоры.

У з о р: *назвы прадметаў* (ш т о?): *звярынец, ...*; *назвы жывых істот* (х т о?):
*а) людзі: бацька, ...*;
*б) звяры: тыгр, ...*;
*в) птушкі: паўлін, ...* .

**86.** Прачытайце.

ТАМ ЯНА

Там яна, дзе **Прыпяць**, Шчара,
Случ, Бярэзіна, **Дзвіна**,
дзе Князь-возера і Нарач,
Свіцязь светлая, як мара,
і бяздонная без дна.
Там яна, дзе **Тураў**, Полацк —
старажытнейшыя гарады,
Мінск, чый чутны ўсюды голас,

Гомель, Віцебск, Брэст вясёлы,
горад солі малады.
Там яна, дзе з кожным маем
яблынь цвет ляціць з галля.
Палявая, лугавая,
як заўсёды, маладая
**Беларусь** — твая зямля.

*К. Цвірка*

● Назвы якіх мясцін з верша вам лепш за ўсё вядомыя? Раскажыце аб гэтых мясцінах усё, што ведаеце.

● Які горад называюць горадам солі? Чаму яго так называюць?

● У выдзеленых словах вызначце колькасць гукаў і літар.

**87.** Выпішыце з верша «Там яна» асобна: а) назвы гарадоў; б) назвы рэк; в) назвы азёр. Дапішыце да гэтых назваў і тыя, якіх няма ў вершы, але якія вам добра вядомыя.

Узор: *гарады: Мінск, ...;*
*рэкі: Прыпяць, ...;*
*азёры: Нарач, ... .*

**88.** Прачытайце. Выпішыце ў тры радкі назоўнікі па ўзоры.

Узор: *ён: дом, ...;*
*яна: хата, ...;*
*яно: мора, ... .*

Дом, акно, мора, хата, хлопчык, стол, неба, конь, жанчына, вядро, кніга, радзіма.



**89.** Прачытайце. Выпішыце ў тры радкі назоўнікі па ўзоры.

У з о р: *мой: часопіс, …;*
*мая: газета, …;*
*маё: поле, … .*

Газета, часопіс, поле, літара, бабуля, дзядуля, лінейка, вуха, надвор’е, вучань, вяселле, акунь.

## Род назоўнікаў




Вылучаецца тры групы назоўнікаў у залежнасці ад таго, да якога граматычнага **роду** яны належаць. Як жа называецца кожны род? Падказку знайдзіце ў вершы А. Вольскага.

Той,
хто быць пісьменным хоча,
знаць павінен з першых год
род мужчынскі,
род жаночы
і яшчэ —
ніякі род.

Назоўнікі бываюць **мужчынскага, жаночага** і **ніякага** роду. Да назоўнікаў мужчынскага роду можна падставіць словы ***мой, ён:*** *настаўнік, вучань;* да жаночага — ***мая, яна:*** *маці, школа;* да ніякага — ***маё, яно:*** *сонца, неба.*

**90.** Прачытайце.

Гусь уранні
выйшла з хаты,
важна тупае лужком.
А я гусі
не баюся,
а я з гусі
пацвялюся!
Тут яна
як с-с-сыкане́
ды ў атаку —
на мяне.
Ледзь схаваўся я за плот...
Гусь — **яна?**
Жаночы род! Ззаду гусь,
а тут —
сабака.
А сабака
аж якоча —
учапіцца ў лытку хоча.
Ён пільнуе агарод.
**Ён?**
Ага, — мужчынскі род!
Азірнуўся,
ажно бачу:
тут яшчэ і кацяня!
— Мяў, — гаворыць мне яно. —
Я даўно сяджу, даўно.
Кацяня —
яшчэ не кошка,






кацяня —
яшчэ не кот.
Ну, а род?
Падумай трошкі.
Раз **яно** —
ніякі род!

*А. Вольскі*

● Якога роду назоўнікі *гусь, сабака, кацяня?*

● Перакладзіце на рускую мову назоўнікі *гусь, сабака, кацяня.* Ці супадае род гэтых назоўнікаў у рускай і беларускай мовах?



*Пацвяліˊцца* — рус. *подразниться*.

*Лыˊтка* — задняя частка нагі чалавека ад калена да ступні.

**91.** Прачытайце. Выдзеленыя назоўнікі замяніце словамі *ён, яна.* Запішыце.

1. У мяне ёсць прыгожы белы сабака. **Сабака** сустракае мяне каля дзвярэй кожны дзень. 2. Антонаўка — асенні яблык. **Яблык** сакавіты і смачны. 3. Белая гусь хутка адплыла ад берага. **Гусь** вяла за сабой гусянят. 4. За машынай на дарозе ўзнімаўся пыл. **Пыл** клубіўся ў паветры і павольна асядаў на зямлю. 5. Мая сястра атрымала залаты медаль. **Медаль** на выпускным вечары быў уручаны ёй дырэктарам школы.

**Запомніце:** *прыгожы сабака, смачны яблык, белая гусь, залаты медаль, салдацкі шынель, шэры пыл, моцны боль.*

**92.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі. Абазначце іх род.

## ЛЯСНОЕ АЗЯРЦО

Вакол яго сабраўся выключна лісцевы лес: альшына, асіна, чаромха, ясень, рабіна, бяроза. Дрэвы стаяць, пазіраюць у люстра вады і ціха радуюцца: колькі золата назапасілі!

Ноччу тут цішыня таксама. Хіба мо алень прывядзе да вады аленіху. Доўга яны будуць стаяць у месячным святле і слухаць, як ападае на ваду жоўты ліст.

*Я. Пархута*

- Раскажыце, як вы вызначылі род назоўнікаў.
- Растлумачце, аб якім люстры і золаце гаворыць у тэксце аўтар.




Пры вызначэнні роду назоўніка змяняем яго так, каб ён абазначаў адзін прадмет. Напрыклад: *дрэвы* (я н ы) — *дрэва* (я н о, м а ё), значыць, гэты назоўнік ніякага роду; *песні* (я н ы) — *песня* (я н а, м а я), значыць, гэты назоўнік жаночага роду; *хлопчыкі* (я н ы) — *хлопчык* (ё н, м о й), значыць, гэты назоўнік мужчынскага роду.

**93.** Прачытайце. Вызначце род назоўнікаў.

Тата, маці, дзяўчынка, сын, сястра, брат, дзядзька, цётка, унучка, унук.

● Якое значэнне ў рускай мове маюць словы *дядя, дядька, тётя, тётка*?




У беларускай мове *дзядзька* — гэта бацькаў або матчын брат, а таксама цётчын муж; слова *дзядзя* — гэта зварот дзяцей да дарослага мужчыны; *цётка* — бацькава або матчына сястра, а таксама жонка дзядзькі; *цёця* — зварот да жанчыны.

♦ **94.** Разгледзьце малюнак. Складзіце па ім вуснае апавяданне, ужываючы назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду.





**95.** Прачытайце. З дапамогай суфіксаў ад наступных назоўнікаў утварыце новыя словы-назвы дзіцянят жывёл. Абазначце род усіх назоўнікаў.

Узор: *каза (ж. р.) — казляня (н. р.)* або *казлянё (н. р.)*.

Каза, кот, тыгр, воўк, заяц, ліса, сабака, мыш, мядзведзь, леў.

● Растлумачце напісанне галосных літар у слове *медзведзяня.*

Вызначыць род назоўніка можа дапамагчы прыметнік.

Напрыклад, у спалучэнні слоў *новы раяль* слова *раяль* — мужчынскага роду; гэта падказаў нам прыметнік *новы* (параўнаем: *новая спадніца, новае паліто*).

**96.** Запішыце спалучэнні слоў. Абазначце ў дужках літарамі *м., ж., н.* род кожнага назоўніка. Пры выкананні практыкавання звяртайцеся да памяткі.

Новы раяль, дробная соль, дзедаў медаль, моцны боль, злы сабака, смачны яблык.

**97.** Падбярыце па сэнсе да кожнага прыметніка назоўнік. Запішыце словазлучэнні. У дужках пасля назоўнікаў абазначце іх род.

У з о р: *нізкае дрэв*[*а*] (н. р.).

Нізкі ..., высокі ..., халодная ..., шырокае ..., гарачая ..., вузкае ..., мяккі ..., цёмны ..., светлы ..., цвёрды ... .

● Якія з прыметнікаў з'яўляюцца антонімамі?

**98.** Да кожнага назоўніка падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем. Запішыце. Вызначце род назоўнікаў.

У з о р: *смутак* (м. р.) — *радасць* (ж. р.).

Маладосць — ..., шчасце — ..., праўда — ..., цішыня — ..., спёка — ..., зіма — ..., холад — ... .

***калектыў*** ***дэлегацыя***

**99.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Абазначце род назоўнікаў.

Аг..род, атрад, вер..бей, б..роза, п..нал, фламаст..р, ч..сціня, дз..ўчынка, дз..журны, кал..ктыў, с..рада, д..легацыя, бал..рына, касм..с, насе(*н, нн*)е, ур..джай, ч..цвер, дэл..гат, к..см..наўт, н..дзеля, збо(*ж, жж*)а.

● Растлумачце, чаму ў словах *агарод, атрад* на канцы трэба пісаць ***д***, а не ***т***.

● Складзіце сказы са словамі *серада, нядзеля, дэлегацыя.* Запішыце сказы.



**100.** Прачытайце. Ад наступных назоўнікаў мужчынскага роду з дапамогай суфіксаў утварыце назоўнікі жаночага роду па ўзоры. У словах жаночага роду абазначце суфікс.

Узор: *вучань — вучаніца.*

Вучань, беларус, спартсмен, артыст, студэнт, ткач, сусед.

## Лік назоўнікаў




Назоўнікі могуць абазначаць адзін або некалькі прадметаў. А дапамагаюць ім у гэтым канчаткі. Напрыклад: *цвік—цвікі, дом—дамы.*

**101.** Прачытайце. Вызначце лік выдзеленых назоўнікаў.

Дзед Яўсей пачаў шукаць сякеру:

— **Маразы** моцныя. На возера схаджу. Прасяку **палонкі.** Каб рыбе лягчэй дыхалася.

Міша таксама апрануўся, і яны пайшлі за вёску. Усё вакол белае: **палі, дрэвы. Лёд** на азярцы тоўсты, да вады далёка. **Дзед** усё махаў сякерай ды махаў. Вось паказалася цёмная плямка. Дзед секануў яшчэ раз, і ўдарылі **фантанчыкі** вады. Ён ачысціў палонку ад лёду. З вады вытыркнуліся **галоўкі** рыбак.

— Дыхайце маленькія, дыхайце, — радаваўся Міша, гледзячы, як **рыбкі** прагна хапаюць марознае паветра.

*Паводле Р. Ігнаценкі*

- Прыдумайце назву апавядання.
- Куды і для чаго сабраўся ісці дзед Яўсей?
- Хто пайшоў разам з дзедам?
- Што зрабіў дзед Яўсей?
- Чаму ўзрадаваўся Міша?



*Сякéра* — рус. *топор.*
*Пля́мка* — рус. *пятнышко.*

**102.** Прачытайце. Вызначце род назоўнікаў. Змяніце і запішыце словы так, каб яны абазначалі многа прадметаў.

Узор: *стол* — *стал[ы]*.

Дрэва, зорка, птушка, выдатнік, партфель, лінейка, сшытак, дзённік, ручка, аловак, альбом, падручнік, малюнак, сяброўка, матылёк, ігруша, настаўнік.

Назоўнікі змяняюцца па ліках: *дом—дамы, кніга—кнігі, поле—палі.*

Пры змяненні назоўнікаў па ліках змяняюцца іх канчаткі.

**103.** Пастаўце назоўнікі ў множным ліку. Запішыце парамі словы ў адзіночным і множным ліку.

Бераг, жолуд, горад, воз, вечар, вецер, зубр, сяло, гняздо, вясло, вядро, сцяг, стог, дрэва.

- Вусна перакладзіце назоўнікі ў множным ліку на рускую мову.

**104.** Пастаўце назоўнікі ў адзіночным ліку і запішыце іх.

Відэльцы, яблыкі, кішэні, шафы, залы, таполі, туфлі, мандарыны.

**105.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя назоўнікі (дзе неабходна, з прыназоўнікамі). Абазначце іх лік і род.

Лісце **на дрэвах** пачынае жаўцець, набываючы розныя колеры і адценні. Сярод цёмных вечназялёных **лапак ялін** зіхацiць лісце **бяроз, ліп, клёнаў, вольхі, арэшніку.**

У высокім сінім небе не чуваць ужо **над полем** звонкага **спеву жаваранка.** Не відаць у **садах ні берасцянкі, ні чыжыка, ні шпакоў.**

*В. Вольскі*

- Растлумачце, як вы вызначалі лік і род назоўнікаў.
- Які гэта тэкст — апавяданне ці апісанне?



*Шпак* — пералётная птушка з чорным апярэннем (рус. *скворец*).

**106.** Прачытайце верш. Выпішыце спачатку назоўнікі адзіночнага ліку і ўтварыце ад іх назоўнікі множнага ліку. Потым выпішыце назоўнікі множнага ліку і ўтварыце ад іх назоўнікі адзіночнага ліку.

САПРАЎДНЫЯ СЯБРЫ

Сябруюць —
ніколі не скажуць «не дам».
Усё яны дзеляць
заўжды папалам:
суніцы, чарніцы,
банан, агурок,
арэхі, струкі,
апельсін, піражок.
Адзін будзе грэцкі арэх,
Як на грэх, —
пароўну падзеляць
і грэцкі арэх.
Сябры яны —
проста вадой не разліць.

*М. Дукса*

- Як вы разумееце выраз «вадой не разліць».




Некаторыя назоўнікі ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку: *цукар, малако, гліна, поўнач.* Іх нельга паставіць у множным ліку.

У сваю чаргу некаторыя назоўнікі ўжываюцца толькі ў множным ліку: *граблі, санкі, дзверы.*

**107.** Прачытайце. Вызначце род назоўнікаў. Выпішыце назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку.

Кефір, лыжка, мука, чысціня, выдатнік, малако, хмара, крэсла, святло, вечар, дом, гліна, поўдзень.

**108.** Прачытайце. Спішыце, падкрэсліце назоўнікі множнага ліку, якія не ўжываюцца ў адзіночным ліку.

Акуляры, абоі, палосы, ліхтары, штаны, вілы, дарогі, вароты, цацкі, абцугі, нажніцы, канікулы, гульні, адзнакі.



**109.** Адгадайце загадку.

Яны з касой штодня  
працуюць, як радня,  
зубоў драўляных многа,  
а не ядуць нічога.

- У якім ліку ўжываецца слова-адгадка?



**110.** Прачытайце. Спішыце. Адной рыскай падкрэсліце назоўнікі ў адзіночным ліку, дзвюма — у множным.

ДЗВЕРЫ

Ходзяць дзверы  
ў кватэры  
цэлы дзень

сюды-туды,
ходзяць
цэлыя гады.
І яны не проста ходзяць —
нас
сустракаюць і праводзяць.

*М. Дукса*



● Колькі прадметаў абазначае слова *дзверы*? Ці можна яго ўжыць у адзіночным ліку?

● Як вы разумееце выраз «дзверы ходзяць»?

● Знайдзіце ў тэксце словы, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае.

## Скланенне назоўнікаў




Прачытайце: *Новы* ***дом*** *рабочыя пабудавалі хутка. Мы таксама будзем жыць у гэтым* ***доме. За домам*** *пасадзілі маладыя дрэўцы.*

Як бачым, адно і тое ж слова мае розныя канчаткі. Гэта неабходна для таго, каб словы ў тэксце правільна спалучаліся адно з адным: *пасадзілі* (**з а ч ы м?**) *за домам*, а не *за дому* або *за доме*.

**111.** Прачытайце. Ад выдзеленых слоў пастаўце пытанні да назоўніка *камень*.

Ля дарогі **ляжаў** вялікі камень. Каля каменя **любілі гуляць** дзеці. Гэтаму каменю людзі **далі назву** «Асілак». Не кожны хлопчык мог **залезці**

на камень — такі вялікі ён быў. За каменем **рос** магутны дуб. Аб гэтых двух асілках — аб камені і дубе — **хадзілі легенды.**

● Запішыце ў слупок спалучэнні выдзеленых слоў са словам *камень* у той форме, у якой яно ўжыта ў тэксце. У дужках запішыце пытанні да слова *камень.*

У з о р: (ш т о?) *камень ляжаў.*

Змяненне назоўнікаў па пытаннях называецца **змяненнем па склонах, або скланеннем.**

**112.** Прачытайце. Спішыце. Замест кропак устаўце слова *ліса.* Змяняйце канчаткі гэтага слова ў залежнасці ад пытання. Канчаткі абазначце.

(Х т о?) ... — хітры рыжы звер. Хвост (у к а г о?) у ... прыгожы, пушысты. У пошуках ежы (к а м у?) ... прыходзіцца прабягаць дзесяткі кіламетраў. У лесе (к а г о?) ... можна ўбачыць толькі здалёк. У заапарку ж вы можаце стаяць амаль побач (з к і м?) з ... . Многа казак складзена (а б к і м?) аб ... .

**113.** Замест кропак запішыце словы *брат, сястра, сонца* ў патрэбным склоне.

(Х т о? ш т о?) брат, сястра, сонца.
(К а г о? ч а г о?) ..., ..., ... .

(К а м у? ч а м у?) ..., ..., ... .
(К а г о? ш т о?) ..., ..., ... .
(К і м? ч ы м?) ..., ..., ... .
(А б к і м? а б ч ы м?) ..., ..., ... .

**114.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце, што расказваюць пра сябе склоны.




— Я называю прадмет, які выконвае якое-небудзь дзеянне або мае прымету:

х т о?
***Вучань*** *старанны.*

х т о? ш т о?
***Чмель*** *гудзе.* ***Сонца*** *свеціць.*

— У сказе мяне можна пазнаць з дапамогай слова *няма* (к а г о? ч а г о?), напрыклад:

к а г о? ч а г о?
*няма* ***сястры,*** *няма* ***ручкі,***
к а г о?
*сляды* ***зайца.***







— Разам са мной назоўнікі называюць прадмет, для якога нешта робяць:

к а м у? ч а м у?
даць ***брату,*** *падарыць* ***школе.***
Пазнаць мяне дапаможа слова *даваць* (к а м у? ч а м у?).




— Вы пазнаеце мяне, калі падставіце слова *бачу* (каго? што?):

каго? што?

*бачу* ***сябра,*** *убачыць* ***аўтобус*.**




— Пазнаць мяне дапаможа слова *ганарупся* (кім? чым?):

чым?

*маляваць* ***акварэллю,*** *гуляць*

з кім?

***з братам*.**




— Я завуся месным, бо з маёй дапамогай назоўнікі часта абазначаюць месца:

у чым? дзе?

*шукаць* ***у лесе,*** *сядзець*

на чым? дзе?

***на плоце*.**

Я магу называць таго, аб кім гавораць, або тое, аб чым думаюць, спяваюць:

аб чым?

*марыць* ***аб падарожжы*.**

Ад сваіх сяброў-склонаў я адрозніваюся тым, што не магу ўжывацца без прыназоўнікаў.

● На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў назоўным, родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах?
● Які склон заўсёды ўжываецца без прыназоўніка?
● Чым месны склон адрозніваецца ад усіх астатніх?

**115.** Прачытайце памятку, як вызначыць склон назоўніка. Звяртайцеся да яе пры выкананні практыкаванняў.

| | |
|---|---|
| **Назоўны** | х т о? ш т о? |
| **Родны** (няма) | к а г о? ч а г о? |
| **Давальны** (дам) | к а м у? ч а м у? |
| **Вінавальны** (бачу) | к а г о? ш т о? |
| **Творны** (любуюся) | к і м? ч ы м? |
| **Месны** (думаю) | а б к і м? а б ч ы м? |

● Спішыце і запомніце назвы склонаў і пытанні да іх.




Да назоўнікаў, якія абазначаюць людзей і жывёл, ставяцца пытанні х т о? к а г о? к а м у? к а г о? к і м? а б к і м?

Да назоўнікаў, якія абазначаюць расліны, рэчы, прадметы, ставяцца пытанні ш т о? ч а г о? ч а м у? ш т о? ч ы м? а б ч ы м?

**116.** Прачытайце. Вызначце склон выдзеленых слоў.

ЖОЎТАЯ ДАРОЖКА

Вузкая **дарожка** віецца праз густы лес. **З дарожкі** ўбок не ступіць: гушчар непралазны.

Мінае зялёнае лета, і надыходзіць жоўтая восень. Залатым лісцем бярозы засцілаюць **дарожку.**

Праходзіш **па дарожцы** і азіраешся, ці не нaслядзіў.

Зімой, калі паваліць снег, тонкія елкі і бярозы гнуцца, схіляюцца, і **над дарожкай** з'яўляюцца крыштальна-белыя снежныя аркі, казачна прыгожыя і вельмі крохкія.

*З. Бяспалы*

- Чаму лета аўтар называе зялёным, а восень — жоўтай?
- Выпішыце выдзеленыя словы, абазначце іх склон.



*Крóхкія* — рус. *хрупкие.*
*Гушчáр* — рус. *чаща (лесная чаща).*

**117.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту назоўнікі. Абазначце іх склон.

1. Жыла-была дажджавая кропелька. Яна нястомна працавала. Капне з хмары на зямлю. Напоіць яе. А потым выпарыцца і зноў у паветра ўзляціць. Збяруцца такія кропелькі ў адно воблака і ападаюць дажджом.

*Паводле А. Кобец-Філімонавай*



**118.** Прачытайце. Спішыце. Пастаўце ў дужках да слова *Алеся* склонавае пытанне, вызначце склон гэтага назоўніка. Падкрэсліце словы (акрамя слоў першага сказа), ад якіх ставяцца пытанні.

Кожны дзень (...) Алеся рыхтуе ўрокі.

Да (...) Алесі часта заходзіць яе сяброўка Насця. Яна дапамагае (...) Алесі рашаць задачы. Насця вельмі паважае (...) Алесю за яе стараннасць, таму і сябруе з (...) Алесяй. Насця часта расказвае сваім бацькам аб (...) Алесі.

● Назавіце ў апошнім сказе дзейнік і выказнік. Пастаўце пытанні да ўсіх дада804 членаў гэтага сказа.




Каб вызначыць склон назоўніка, трэба:
1) знайсці слова, ад якога ён залежыць;
2) ад гэтага слова паставіць пытанне да назоўніка. Напрыклад, *сябруе* (з к і м?) *з Алесяй* — Т. скл.

**119.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя назоўнікі разам са словамі, ад якіх яны залежаць. Пастаўце да назоўнікаў пытанні і вызначце іх склон.

У з о р: *паказвацца* (з - з а ч а г о?) *з-за гарызонту*.

Самай ранічкай, калі сонца ледзь-ледзь пачало паказвацца **з-за гарызонту**, Алесь пайшоў у лес. Ён абышоў усе грыбныя **мясціны**, але каб хоць адну **лісічку** падняў! Не паверыў сваім **вачам** і яшчэ раз прайшоўся па знаёмых сцежках. Але і на гэты раз не ўбачыў ніводнай **лісічкі.**

*Паводле Я. Галубовіча*

**120.** Разгледзьце малюнкі.



● Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце.

Што робяць хлопчыкі ў майстэрні?

Для каго яны робяць кармушкі?

Чаго хлопчыкі палезлі на дрэва?

Хто назірае за імі?

Куды скача кот?

Што атрымалася ў выніку «палявання» ката?

● У запісаных сказах вызначце склон назоўнікаў і абазначце яго літарай зверху.

**121.** Праскланяйце словы *аловак, пісьмо, школа.* Запішыце іх разам са склонавымі пытаннямі (памятка 1 на с. 100).

Узор: *Н.* (што?) *аловак, школа, пісьмо.*

● Ад чаго залежыць розніца ў канчатках слоў у адным склоне?

**122.** Прачытайце. Спішыце. Пазначце ў дужках склон выдзеленых назоўнікаў.

**Мароз** намаляваў **на акне** дзівосныя белыя **ўзоры.** Рассыпаў рознакаляровыя вясёлыя **агеньчыкі.** Шуміць **за сцяной вецер**, гойдае прамёрзлыя **галінкі дрэў.**

*Паводле Я. Бяганскай*

**123.** Спішыце. Пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне адзіночнага ліку. Назавіце склон гэтых назоўнікаў.

Пляцоўка за *(школа)*, партфель *(сястра)*, даць костачку *(сабака)*, убачыць *(сяброўка)*, купіць *(яблык)*, расказваць аб *(падарожжа)*, плаванне *(гусь)*.

**124.** Дапішыце канчаткі назоўнікаў. Вусна вызначце склон гэтых назоўнікаў.

Вавёрк.. скакала з дрэв.. на дрэв.. . Быццам нельга было прыдумаць іншага занятк.. . Але перад надыход.. халад.. вавёрк.. бралася за работ.. .

Рамантавала сваю хатк.. . Высцілала яе цёплым мох.. . Потым з ранк.. да вечар.. яна насіла ў сваю хатк.. смачныя лясныя арэх.. .

*Паводле А. Васілевіч*

**125.** Выпішыце словы ў родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах.

Узор: *Р.: ад дома, ...; Д.: ...* .

Пры доме, к дому, без дома, за дом, для дома, на дом, каля дома, пад дом, над домам, у дом, пра дом, пад домам, за домам, аб доме, перад домам, на доме, у доме, ад дома.

● Прыдумайце і запішыце па адным сказе са словам *дом* з прыназоўнікам у родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах.



**126.** Прачытайце. Спішыце, абазначце склон, у якім ўжыты назоўнік *слова* ў сказах.

Роднае *слова* мы чуем з маленства. З родным *словам* прыходзяць да нас казкі бабулі. Без роднага *слова* мы сумуем удалечыні ад сваёй краіны. Аб родным *слове* паэты складаюць вершы.

● Прыдумайце сказы са словазлучэннем *роднае слова.* Назоўнік *слова* павінен у іх ужывацца ў склонах, у якіх ён не ўжыты ў практыкаванні.

## Назоўны склон

**127.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў назоўным склоне. Якім членам сказа яны з'яўляюцца?

### ЛЯСНАЯ ГОСЦЯ

Бяру кошык, іду ў грады і тут жа спыняюся, уражаны.

Морква знікла!.. І бацвінне з буракоў пазрывана. Капуста пагрызена.

Я рашыў папільнаваць градку.

Вечар быў ціхі, бязветраны. Стаю і праз акенца пазіраю на градкі. Чакаць доўга не давялося. Спярша пачулася лёгенькае патупванне капыткоў. А тады ля градкі морквы з'явілася маладзенькая казуля. Я не стаў яе праганяць.

*Паводле Я. Галубовіча*

**128.** Складзіце сказы не менш як з трох слоў. Дзейнікамі ў сказах павінны быць наступныя назоўнікі: *восень, зіма, дрэвы, людзі, настаўнік.*

Запішыце. Словы ў назоўным склоне падкрэсліце.

**129.** Прачытайце. Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Назавіце склон назоўнікаў. Абгрунтуйце свой адказ.

### ПРАЦАЎНІКІ

Працуе ц..гнік, працуе м..тор,
працуе цясляр, будаўнік і шахцёр.

Працуюць агонь, пара і газ,
працуюць геолаг і в..далаз.
*А. Дзеружынскі*

- Які гэта тэкст — празаічны ці вершаваны? Чаму?
- Вусна перакладзіце слова *па́ра* з верша на рускую мову. Ці супадае род гэтых слоў?



*Цясля́р* — рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны (рус. *плотник*).

**130.** Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Назавіце назоўнікі ў назоўным склоне.

Добрае слов.. лепш за **багац..е**. Глыбокая рака ц..чэ без шуму. Бачыць зоркае вока дал..к.., а **дапытлівы** розум яшчэ далей.

- Выдзеленыя словы падзяліце для пераносу.



*Дапы́тлівы* — які імкнецца ўсё зразумець, набыць новыя веды (рус. *любознательный*).

**131.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі ў назоўным склоне.

У Беларусь жураўлі вяртаюцца з цёплых краёў у сярэдзіне сакавіка. Сонца яшчэ не паспела злі-

заць снег. Раніцай і ўвечары кусаецца мароз. А жураўлі ўжо пяюць, звіняць над полем і лесам, над вёскамі і гарадамі.

● У кожным сказе назавіце дзейнік. На якое пытанне ён адказвае?

## Родны склон

**132.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту назоўнікі ў родным склоне разам са словамі, ад якіх яны залежаць. Вусна пастаўце склонавае пытанне ад гэтых слоў да назоўніка. Абазначце канчаткі назоўнікаў.

У з о р: *дзень лістапад[а]*.

Першы дзень лістапада быў празрысты, як сцюдзёная крынічная вада.

Чулася гагатанне гусей. Птушкі гагаталі, нібы спрачаліся, ці правільны кірунак трымае іх важак.

Нечакана з-за лесу насустрач гусям вырваўся самалёт. Ён прайшоў вышэй, над птушкамі. У гусіным страі пасля гэтай сустрэчы нешта здарылася. Птушкі закружыліся на адным месцы, моцна гагочучы.

Неўзабаве ад чарады аддзяліўся важак. Яму ў хвост пачалі прыстройвацца астатнія птушкі.

*З. Бяспалы*

● Назавіце назоўнікі ў назоўным склоне. Якім членам сказа яны з’яўляюцца.

**133.** Спішыце. Словы ў дужках пастаўце ў родным склоне, перад гэтымі словамі запішыце патрэбнае склонавае пытанне.

Узор: *кніга* (каго?) *суседа.*

Кніга *(сусед)*, галінка *(елка)*, ліст *(бяроза)*, не было *(сустрэча)*, многа *(ягады)*, малюнак *(мастак)*, бутэлька *(вада)*, акуляры *(дзядуля)*, пінжак *(бацька)*.




Да назоўнікаў у родным склоне ставяцца пытанні каго? чаго?, а таксама дзе? адкуль?

З назоўнікамі ў родным склоне могуць ужывацца прыназоўнікі ***ад, без, да, для, каля, у, з-за.***

**134.** Спішыце. Устаўце неабходныя прыназоўнікі. Абазначце канчаткі назоўнікаў у родным склоне.

Машына ад'ехала ... дома. Чалавеку цяжка абыходзіцца ... гадзінніка. Даехаць ... вёскі на аўтобусе. Тата купіў падарунак ... дачкі. Дзяўчынка выйшла ... тралейбуса. Алеся стаіць ... дошкі. ... Міхася ёсць прыгожы сабака. Пушысты кот выйшаў ... дзвярэй.

**135.** З наступных слоў утварыце словазлучэнні. Назоўнік, што ў дужках, пастаўце ў родным склоне. Перад назоўнікамі

ў родным склоне запішыце неабходныя прыназоўнікі: ***ад, з, каля, без, да, для, у, з-за.***

Ад'ехаць *(вёска)*, падарунак *(тата)*, падысці *(лес)*, запытаць *(паштальён)*, выйсці *(аўтобус)*, загараць *(возера)*, дрэва *(лісце)*, пярсцёнак *(золата)*, малако *(унучка)*, выглянуць *(дрэва)*, пастаяць *(палац)*, саскочыць *(паркан)*, чакаць *(сябар)*.



*Паркáн* — рус. *забор*.

**паштальён**

**136.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце.

Лодка подплыла **к берегу.** Мальчик подошёл **к реке.** Ученицу вызвали **к доске.** Машина подъехала **к театру.** Директора позвали **к телефону.**

- Вызначце склон выдзеленых слоў у рускай і беларускай мовах.
- У перакладзеных сказах падкрэсліце дзейнік.

♦ **137.** Разгледзьце малюнкі.













● Складзіце сказы па малюнках. Вызначце склон назоўнікаў, абазначце іх па ўзоры.

Н. Р.
**У з о р.** *Дзяўчынка баіцца мышкі.*

● Словы для выкарыстання: *баіцца* (к а г о?), *бяжыць* (а д к а г о?), *даганяе* (к а г о?), *ловіць* (к а г о?), *малако* (д л я к а г о?).

**Запомніце:**
*па-беларуску* — *смяяцца* (з к а г о? з ч а г о?);
*па-руску* — *смеяться* (н а д к е м? н а д ч е м?).



**138.** Прачытайце прыказкі. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі ў родным склоне. Растлумачце, як вы разумееце прыказкі.

У гультая і страха цячэ, і печ не пячэ.
Дзе няма ведаў, там не будзе смеласці.
Ад навукі дужэюць рукі.
У розуму тысячы вачэй.

## Давальны склон

**139.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў давальным склоне.

Ганначка прынéсла сваёй сяброўцы Волечцы яблыкі. К прыходу бацькоў Волечка паклала чатыры яблыкі на стол і пад кожным на лісточку напісала: тату, маме, брату Юрку, любімаму папугаю.

— А як жа наш папугай даведаецца, дзе яго яблык? — запытаўся Юра. — Ён жа толькі гаворыць, а чытаць не ўмее.

— Ты таксама спачатку толькі гаварыў, а чытаць пасля навучыўся, — пажартавала Волечка.

- Прыдумайце загаловак да гэтага тэксту.
- Назавіце з тэксту назоўнік, які ў беларускай мове мае мужчынскі род, а ў рускай — ніякі.




Да назоўнікаў у давальным склоне ставяцца пытанні к а м у? ч а м у? З назоўнікамі ў давальным склоне можа ўжывацца прыназоўнік ***к***: *спяшаецца к адыходу поезда*.

**140.** Прачытайце. Дапішыце назоўнікі ў давальным склоне.

Радавацца (ч а м у?) сонцу *(лета, снег, зіма)*;
паслаць пісьмо (к а м у?) сябру *(таварыш, настаўнік)*;
паставіць добрую адзнаку (к а м у?) вучню *(Зіна, выдатнік)*;
дзякаваць (к а м у?) бацьку *(брат, урач)*.

**Запомніце:**
*па-беларуску — дзякаваць* (к а м у?) *бацьку;*
*па-руску — благодарить* (к о г о?) *отца.*

**141.** Запішыце па ўзоры. Абазначце канчаткі назоўнікаў у давальным склоне.

У з о р: *купілі для брата — купілі брату.*

прынеслі для сястры — ... ...,
лялька для дзяўчынкі — ... ...,
паліто для бабулі — ... ...,
корм для гусі — ... ... .

● У якім склоне ўжываюцца назоўнікі з прыназоўнікам ***для***, у якім — без прыназоўніка ***для***?

**Н.** Вася, Наташа
**Р.** Васі, Наташы
**Д.** Васю, Наташы
**В.** Васю, Наташу
**Т.** Васем, Наташай
**М.** (аб) Васю, (аб) Наташы

**142.** Запішыце імёны і прозвішчы ў давальным склоне. Абазначце канчаткі. Звяртайцеся да дадзенай вышэй памяткі.

Вася, Наташа, Міша, Янка, Грыша, Мікола, Каця, Вольга, Юра, Ракомсін Саша, Ракомсіна Саша, Камароўскі Жэня, Камароўская Жэня.

● Які канчатак у давальным склоне маюць назоўнікі — імёны мужчынскага роду на ***-а(-я)***?



**143.** Прачытайце. Запішыце назоўнікі ў давальным склоне. Звяртайцеся да памяткі 2 на с. 101.

Нага, хмара, Даша, сініца, паляна, муха, лодка, гульня, кропка, нядзеля.

● Якое значэнне мае слова *нядзеля* ў беларускай мове і слова *неделя* — у рускай?

## Вінавальны склон

**144.** Прачытайце. Вызначце склон назоўнікаў.

Бачу (к а г о?) тату, брата; (ш т о?) ручку, гадзіннік; праводзіў (к а г о?) сябра, суседа; (ш т о?)

поезд; слухаю (к а г о?) настаўніка, Алесю; (ш т о?) верш, музыку.

● Да якіх назоўнікаў у вінавальным склоне ставіцца пытанне к а г о?, да якіх — ш т о?

**145.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў вінавальным склоне. Выпішыце іх разам з дзеясловамі, ад якіх ставіцца пытанне да гэтых назоўнікаў.

ШЧАСЦЕ

Я маляваць буду
ўсіх па парадку.
Вось намалюю
я маму спачатку.
З ёй і сябе я
побач пастаўлю.
Потым я сонейка
зверху дабаўлю.
Выведу ўдалеч
бярозавы шлях,
птушак, жывёл
размяшчу па баках.

*М. Дукса*

**146.** Прачытайце. Знайдзіце словы ў вінавальным склоне.

Нечакана неба зацягнулі цёмныя хмары. Узняўся моцны вецер. Зламаў рабіну каля хаты, вырваў з коранем асіну, растрос стог сена, прыгнуў

да зямлі высокую траву. Спыніўся гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Пайшоў моцны дождж.

• Выпішыце з тэксту сказы, якія адпавядаюць схеме ________ (я к і?) ________ .




Да назоўнікаў у вінавальным склоне ставяцца пытанні к а г о? ш т о? к у д ы?

З назоўнікамі ў вінавальным склоне могуць ужывацца прыназоўнікі ***за, на, пад, у, пра***.

**147.** Запішыце з дзеясловамі назоўнікі ў вінавальным склоне. Пытанні і дужкі апусціце. Абазначце канчаткі назоўнікаў.

Зайсці (з а ш т о? к у д ы?) *(будынак, бяроза)*; пакласці (н а ш т о? к у д ы?) *(ложак, зямля)*; падпаўзці (п а д ш т о? к у д ы?) *(плот, машына)*; перабегчы (п р а з ш т о? к у д ы?) *(вуліца, мост)*; унесці (у ш т о? к у д ы?) *(кватэра, хлеў)*; расказаць (п р а ш т о?) *(сустрэча, лес, возера)*; (п р а к а г о?) *(сяброўка, вожык, медзведзяня)*.

• Ці аднолькавае лексічнае значэнне маюць беларускае слова *ўне́сці* і рускае *унести́.*

**148.** Прачытайце. Вусна вызначце склон выдзеленых слоў.

1. **Сшыткі** ляжаць на стале. Пакладзі кнігу на **сшыткі**. 2. **Поезд** прыбывае вельмі рана. Мы сустракалі **поезд** з нашымі спартсменамі. 3. Наша

**возера** прываблівае многіх турыстаў. Пра **возера** існуе цікавая легенда. 4. Бацькі купілі Алесю новы **партфель.** Новы **партфель** вельмі спадабаўся Алесю.

- У якім склоне выдзеленыя словы з'яўляюцца дзейнікам?
- У якім склоне выдзеленыя словы ўжываюцца без прыназоўніка, у якім — з прыназоўнікам або без прыназоўніка?

Назоўнікі ў назоўным склоне з'яўляюцца дзейнікам, у вінавальным — даданым членам сказа.
У назоўным склоне назоўнікі ўжываюцца заўсёды без прыназоўніка, у вінавальным — **з прыназоўнікам або без прыназоўніка.**




Родны і вінавальны склоны маюць, як вядома, два аднолькавыя пытанні (к а г о?) і два розныя (Р. ч а г о? В. ш т о?). Таму пры вызначэнні склону на месца слова, якое адказвае на пытанне к а г о?, пастаўце слова, якое б адказвала на пытанне ч а г о? або ш т о? Гэта дапаможа вам вызначыць склон назоўніка.

Напрыклад:
*расказаў* (п р а к а г о?) *пра Міхася*
(п р а ш т о?) *пра сустрэчу*.

Значыць, у дадзеным выпадку назоўнік ужываецца ў вінавальным склоне.

**149.** Прачытайце. Вызначце склон выдзеленых слоў.

У госці да **Міхася** прыйшоў Андрэй. Пра **Міхася** мне расказаў яго сябар Андрэй. Мяч з аўтографам вядомага **футбаліста** знаходзіўся ў музеі. Першы раз гэтага вядомага **футбаліста** мы ўбачылі на нашым стадыёне. У **вучняў** нашага класа толькі добрыя і выдатныя адзнакі. Пра **вучняў** нашага класа карэспандэнт расказаў па радыё.



**150.** Прачытайце прыказкі. Спішыце. Зверху над назоўнікамі абазначце іх склон.

Не за сваю справу не бярыся.
У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі.
Пад ляжачы камень вада не бяжыць.
Гультай за работу — мазоль за руку.

- Падрыхтуйцеся растлумачыць сэнс прыказак.
- Назавіце ў прыказках словы, у якіх у першым складзе перад націскам пішацца ***я***.

## Творны склон

**151.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце назоўнікі ў творным склоне. Пастаўце ў дужках да іх пытанні. Абазначце ў назоўніках канчаткі.

### МЫ ЕДЗЕМ

З дзедам
на веласіпедзе

мы ўдваіх купацца едзем.
Правіць дзед веласіпедам,
я — на раме перад дзедам.
Сустракаюць нас гасцінна
ціхім шолахам яліны.
Каля возера ляснога
абрываецца дарога.

*А. Александровіч*

● Вусна вызначце, у якім склоне ўжыты назоўнікі ў апошнім сказе.

● Падбярыце і запішыце сінонім да слова *абрываецца.*

Назоўнікі мужчынскага роду на ***-а(-я)*** у творным склоне маюць наступныя канчаткі:

слуга́ — слуг[о́й],
старшыня́ — старшын[ёй],
Міко́ла — Міко́л[ам],
Ва́ся — Ва́с[ем].

**152.** Прачытайце. Запішыце назоўнікі ў творным склоне.

Мікола, старшыня, дзядуля, Янка, Вася, дзядзька, мужчына, Міша.

**153.** Спішыце. Словы ў дужках пастаўце ў творным склоне. Дужкі апусціце.

Над *(лес)* праляцеў самалёт. Алесь вучыцца ў адным класе з *(Вова)*. За *(поле)* пачынаецца лес.

Перад *(навальніца)* неба пацямнела. Пад *(крэсла)* спаў кот. Разам з *(тата)* мы хадзілі ў заапарк. Рыгорка з'яўляецца *(выдатнік)* у класе.




Да назоўнікаў у творным склоне ставяцца пытанні кім? чым?, а таксама дзе? калі?

З назоўнікам у творным склоне могуць ужывацца прыназоўнікі ***над, пад, перад, за, з.***

**154.** Дапішыце назоўнікі ў творным склоне.

Суп трэба есці (чым?) ..., а катлеты (чым?) ... . Многія стравы мы ядзім (з чым?) з ... . Мой тата працуе (кім?) ... . Лес пачынаўся (за чым?) за ... . Вечарам (перад чым?) перад ... я заўсёды чышчу зубы. Птушкі звілі гняздо (пад чым?) пад ... . Вучань схіліўся (над чым?) над ... . Днём я заўсёды гуляю (з кім?) з ... .

**Словы для даведкі:** *слесар, лыжка, малако, сабака, падручнік, відэлец, возера, сон, страха.*

**155.** Прачытайце. Перабудуйце сказы так, каб не змяніўся іх сэнс. Абазначце склон усіх назоўнікаў па ўзоры:

Узор. *Мастак* (Н.) *малюе карціну* (В.).

Н.                                    Т.

*Карціна малюецца мастаком.*

Школьнікі саджаюць дрэўцы. Паштальён разносіць газеты. Кампазітар складае музыку да спектакля. Пісьменнік піша апавяданне для малодшых школьнікаў. Рыгор забівае цвік.




Прачытайце.

*Пасыпаць бульбу* ***соллю.***

У назоўніках жаночага роду з нулявым канчаткам у творным склоне пішуцца і вымаўляюцца падоўжаныя зычныя (напрыклад, *соль*□ — ***соллю***). Асноўная ўмова такога напісання і вымаўлення — галосны гук перад імі *(со**лл**ю)*.

Не падаўжаюцца зычныя ***б, п, м, в, ф, р.***

**156.** Спішыце. Пастаўце словы ў дужках у творным склоне.

1. За *(печ)* жыла мыш. З гэтай *(мыш)* ніхто не мог справіцца. 2. Гэтай *(ноч)* ярка свецяць зоркі. 3. У апошнія дні перад *(восень)* мы яшчэ купаліся. 4. Пушча здзіўляла сваёй *(глуш)*. 5. Ля клеткі з *(рысь)* заўсёды стаялі дзеці.



**157.** Замест кропак запішыце словы ў творным склоне.

Дзядуля ганарыўся сваім ... . Каля крэсла сядзеў сабака з ... ў зубах. Мы ўсёй ... паехалі на

мора. За ... ішлі гусяняты. За дарожным ... не было відаць машыны.

**Словы для даведкі:** *сям'я, медаль, гусь, костка, пыл.*

## Месны склон

**158.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя назоўнікі разам са словамі, ад якіх ставяцца да гэтых назоўнікаў пытанні. Зверху над назоўнікам абазначце склон.

За акном імжыць дожджык, а я мару пра зімовыя канікулы. Хораша будзе **на канікулах!** Катайся **па полі,** толькі рыпіць пад лыжамі снег.

**У полі** ледзь-ледзь ветрыкам павявае. Хлопчыкі і дзяўчынкі тут цэлы дзень бавяцца. Хто **на санках, на каньках,** а хто і так бегае. Весела будзе адпачываць!

*В. Гарбук*

● Назавіце назоўнікі, якія ўжыты ў тэксце ў назоўным склоне. Якім членам сказа яны з'яўляюцца?

● Назавіце назоўнікі, якія ўжыты ў тэксце ў творным склоне.

**159.** Прыдумайце і запішыце сказы з наступнымі словазлучэннямі. Выкарыстайце адзін з прапанаваных назоўнікаў кожнага словазлучэння.

Напісаў аб вёсцы *(аб горадзе, аб паходзе).*
Ляжала на стале *(на падлозе, на лаўцы).*

Ішла па дарозе *(па сцежцы, па лесе)*.
Жыве ў доме *(у вёсцы, у горадзе)*.
Расце пры дарозе *(пры школе, пры доме)*.

- У якім склоне ўжыты назоўнікі?




Да назоўнікаў у месным склоне ставяць пытанні аб кім? аб чым?, а таксама дзе? калі?

З назоўнікам у месным склоне ўжываюцца прыназоўнікі ***аб, на, па, у, пры***.

Успомніце, у чым асаблівасць меснага склону.

**160.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі ў месным склоне разам са словамі, ад якіх ставіцца пытанне да гэтых назоўнікаў. У назоўніках абазначце канчаткі.

У вершалінах хвой чуўся шум з ціхім свістам, а сняжынкі імкліва ўзнімаліся ўгару, і, здавалася, ніводная з іх не трапляла на дол. Але гэта толькі здавалася, бо ўсе звярыныя сляды зніклі на вачах.

Нечакана з'явілася вялікая шэрая птушка і села на бярозе. Праз хвіліну з'явілася другая і села на суседняй бярозе. Гэта былі цецярук з цяцеркаю. Цецерукі карміліся: шчыпалі на галінах пупышкі — свой асноўны зімовы ласунак.

*З. Бяспалы*

- Падбярыце да тэксту загаловак.
- Чаму ў слове *цецярук* перад ***р*** пішацца ***я***, а ў слове *цецерукі* — ***е***?

***па дрэ́вах*** ***па берага́х*** ***па кла́сах*** ***па рэйках***



*Пупы́шка* — рус. *почка.*
*Ласу́нак* — рус. *лакомство.*

**161.** Перакладзіце на беларускую мову. Запішыце першыя два сказы. У перакладах выдзеленых слоў абазначце канчаткі і склон (памятка 3 на с. 102).

Медведи умеют быстро лазить **по деревьям.**

**По улицам** нашего города ходят автобусы, троллейбусы, трамваи.

**По берегам** небольших рек всегда много растительности.

Ученики разошлись **по классам.**

**По рельсам** бегут поезда.



**162.** Прачытайце. Прыназоўнік ***пра*** замяніце прыназоўнікам ***аб***. Словазлучэнні запішыце.

У з о р. *Чытаць пра Беларусь — чытаць аб Беларусі.*

Расказаць пра жыццё. Спяваць пра Радзіму. Думаць пра канікулы. Пісаць пра сяброў. Гаварыць пра кнігі.

● Вызначце склон назоўнікаў з прыназоўнікам ***пра*** і назоўнікаў з прыназоўнікам ***аб***.

**163.** Абапіраючыся на памятку 2 на с. 101, запішыце словы ў давальным і месным склонах. Звярніце ўвагу на несупадзенне зычных у назоўным і давальным, у назоўным і месным склонах.

**Ванна, мука, дарога, кава, муха, дуга, каза, шчака, нага, завіруха.**

- Абазначце канчаткі. Растлумачце іх напісанне.

**164.** Запішыце словы ў давальным і месным склонах (памятка 2 на с. 101). Абазначце канчаткі. Растлумачце іх напісанне.

**Хваля, студня, лыжня, сцюжа, шаша, лодка, сустрэча, рыбка, мара, вадзіца, вопратка, конніца, фігура.**



*Сту́дня* — рус. *колодец*.

**165.** Дапішыце словы, каб атрымаўся сказ. Абазначце склон назоўнікаў.

**(Хто?) ... адышоў ад ...**
**... заехаў за ...**
**... пераплыў цераз ...**
**... даў кнігу ...**
**... праляцеў над ...**
**... расказаў аб ...**
**... прыгожа піша ў ...**
**... крэйдай напісаў на ...**



**166.** Прачытайце. Вусна вызначце склон назоўніка *матылёк.*

МАТЫЛЁК

Было гэта напярэдадні зімы. Я адчыніў дзверы ў сенцы і на падлозе ўбачыў матылька. Ад холаду матылёк зусім аслаб і ледзьве варушыў крылцамі.

Я асцярожна падняў матылька з падлогі, прынёс на кухню і паклаў у папяровую каробачку. Цэлую зіму прабыў у мяне на кухні матылёк. А калі са стрэх са звонам пачалі падаць капяжы, матылёк ажыў, заварушыўся і паляцеў насустрач вясне.

*Я. Галубовіч*

- Спішыце першы абзац тэксту. Абазначце склон назоўнікаў.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое назоўнікі? Што яны абазначаюць?
2. Якога роду бываюць назоўнікі? Як вызначаецца род назоўніка?
3. У якім ліку ўжываюцца назоўнікі?
4. Што такое скланенне назоўнікаў?
5. Якія склоны вы ведаеце? Назавіце склоны і іх пытанні.

## *Памятка 1*

### Скланенне назоўнікаў у адзіночным ліку

Назоўнікі, якія адказваюць на пытанне ш т о?

| | |
|---|---|
| Н. ш т о? | самалёт, хвоя, поле |
| Р. ч а г о? | самалёта, хвоі, поля |
| Д. ч а м у? | самалёту, хвоі, полю |
| В. ш т о? | самалёт, хвою, поле |
| Т. ч ы м? | самалётам, хвояй, полем |
| М. а б ч ы м? | аб самалёце, аб хвоі, аб полі |

Назоўнікі, якія адказваюць на пытанне х т о?

| | |
|---|---|
| Н. х т о? | лётчык, сяброўка, рысь |
| Р. к а г о? | лётчыка, сяброўкі, рысі |
| Д. к а м у? | лётчыку, сяброўцы, рысі |
| В. к а г о? | лётчыка, сяброўку, рысь |
| Т. к і м? | лётчыкам, сяброўкай, рыссю |
| М. а б к і м? | аб лётчыку, аб сяброўцы, аб рысі |

1. У давальным і месным склонах назоўнікаў жаночага роду замест ***г*** пішацца і вымаўляецца ***з*** *(кніга—кнізе)*, замест ***к* — *ц*** *(рука—руцэ)*, замест ***х* — *с*** *(страха—страсе)*.

2. Канчатак назоўнікаў жаночага роду ў давальным і месным склонах можа залежаць ад апошняга зычнага асновы.

Канчатак ***-е***

пішацца, калі слова ў назоўным склоне перад канчаткам мае ***г***, ***х*** або ***цвёрды*** зычны.

Н. кніг[а], страх[а], сцян[а]

Д., М. кніз[е], страс[е], сцян[е]

Канчатак ***-э***

пішацца, калі слова ў назоўным склоне перад канчаткам мае ***к*** і націск на канчатку.

Н. рук[а́]    Д., М. руц[э]

Канчатак ***-і***

пішацца, калі слова ў назоўным склоне перад канчаткам мае ***мяккі*** зычны.

Н. зямл[я]    Д., М. зямл[і]

Канчатак ***-ы***

пішацца, калі слова ў назоўным склоне перад канчаткам мае ***ж, ш, ч, р, ц***, а таксама ***к*** і ненаціскны канчатак.

Н. са́ж[а], Ма́ш[а], да́ч[а], хма́р[а], палі́ц[а]

Д., М. саж[ы], Маш[ы], дач[ы], хмар[ы], паліц[ы]

## *Памятка 3*

### Скланенне назоўнікаў у множным ліку

Назоўнікі, якія адказваюць на пытанне ш т о?

| | |
|---|---|
| Н. ш т о? | бярозы, землі |
| Р. ч а г о? | бяроз (бярозаў), зямель (земляў) |
| Д. ч а м у? | бярозам, землям |
| В. ш т о? | бярозы, землі |
| Т. ч ы м? | бярозамі, землямі |
| М. н а ч ы м? | на бярозах, на землях |

Назоўнікі, якія адказваюць на пытанне х т о?

| | |
|---|---|
| Н. х т о? | браты, вучні |
| Р. к а г о? | братоў, вучняў |
| Д. к а м у? | братам, вучням |
| В. к а г о? | братоў, вучняў |
| Т. к і м? | братамі, вучнямі |
| М. п р ы к і м? | пры братах, пры вучнях |

## ЗМЕСТ

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Валынец** Таццяна Мікалаеўна
**Ратнікава** Ірына Энгелеўна
**Роўда** Іван Сямёнавіч
**Шуба** Павел Паўлавіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

**Падручнік для 4 класа агульнаадукацыйных устаноў з рускай мовай навучання**

У дзвюх частках
Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат.* Мастак *І. В. Лазерка.*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка.*
Камп'ютэрная вёрстка *І. У. Шутко.* Карэктар *Т. Ф. Шайко.*

Падпісана ў друк 09.07.2008. Фармат 70×90 $^1/_{16}$. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,19.
Ул.-выд. арк. 3,43. Тыраж 98 600 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛВ № 02330/0133300 ад 30.04.2004. 220004, Мінск, Караля, 16.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0056853 ад 30.04.2004. 220024, Мінск, Каржанеўскага, 20.